Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 38 (4582) 24 верасня 2010 г.

## У нумары:







Сусветна вядомы рэжысёр і сцэнарыст, класік сучаснага польскага кінематографа прафесар Кшыштаф Занусі зноў наведаў Мінск. Кожны яго візіт з'яўляецца для беларускай культурнай эліты, для айчыннай інтэлігенцыі, для творчай моладзі падзеяй выбітнай. Мы добра памятаем, напрыклад, удзел шаноўнага госця ў праграме Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад-2009": у сталіцы прайшла рэтраспектыва фільмаў Майстра, прымеркаваная да яго 70-годдзя, якое адзначалася акурат летась; у Гомелі ладзілася творчая сустрэча Кшыштафа Занусі з гледачамі; у БДУ культуры і мастацтваў ён правёў майстар-клас...

# Мудрасць Майстра Занусі

Той восенню адбылася і гутарка знанага рэжысёра з міністрам культуры Беларусі Паўлам Латушкам пра магчымасць беларуска-польскага супрацоўніцтва ў кінавытворчасці. Перспектывы такога супрацоўніцтва яны абмяркоўвалі падчас ужо сёлетняй сустрэчы ў Мінску. Да таго ж, наш госць выказаў абсалютна слушную прапанову наконт актывізацыі беларуска-польскіх адносін у сферы культуры ўвогуле, добрая аснова для якіх ёсць.

Наўрад ці трэба даказваць, на якім трывалым агульным гістарычным падмурку развіваліся і развіваюцца стасункі паміж нашымі роднаснымі, славянскімі, еўрапейскімі народамі. Сам Кшыштаф Занусі з вялікай цеплынёй і спагадай выказваецца пра Беларусь, прызнаючыся, што сярод нас пачувае сябе не толькі блізкім суседам, бо памятае пра глыбінныя і складаныя повязі, якія фарміраваліся на працягу многіх стагоддзяў, калі беларусы і палякі жылі поруч у адной вялікай дзяржаве... А яшчэ пан Кшыштаф прызнаецца ў шчырай любові да нашых акцёраў, разам з якімі ажыццявіў сур'ёзны міжнародны тэатральны праект.

Так, цяперашняму візіту Майстра ў Мінск паспрыяла не "дзясятая муза" — апякунка экраннага мастацтва, а яе старэйшая сястра Мельпамена. І вынік гэтага творчага візіту наша публіка ўбачыла на пачатку тыдня: у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Максіма Горкага адбылася прэм'ера спектакля "Дзева і Смерць" паводле п'есы Арыэля Дорфмана ў пастаноўцы Кшыштафа Занусі.

Чылійскі пісьменнік-гуманіст, змагар за правы чалавека, прафесар літаратуры Арыэль Дорфман (з 2004 года — грамадзянін ЗША), які зведаў жахі ваеннага перавароту ў Чылі, перажыў гады выгнання, многія свае раманы, п'есы, вершы, эсэ прысвяціў тэмам тыраніі, дыктатуры, дэпартацыі. Яго самы вядомы твор "Смерць і Дзева" стаў сцэнарнай асновай знанага фільма, знятага ў 1994 годзе Раманам Паланскі. Годам раней аднайменны спектакль быў пастаўлены ў Познані Кшыштафам Занусі. П'еса прайшла на многіх сцэнах свету: у Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША... Польскі рэжысёр стаў яе першаадкрывальнікам для беларускіх тэатралаў.

Інтрыга п'есы, жанр якой пазначаны на афішы як псіхалагічны трылер у 2-х дзеях, разгортваецца праз стасункі трох герояў: хатняй гаспадыні Паўліны Эскабар, яе мужа — адваката, праваабаронцы Херарда Эскабара і доктара Раберта Міранды, што аказаўся іх выпадковым госцем. У ім







гераіня пазнала злачынцу, які ў часы чылійскай дыктатуры зневажаў, катаваў, гвалтаваў яе, і захацела неадкладна адпомсціць... П'еса не мае палітычнага падтэксту. У ёй гучыць характэрная для А. Дорфмана тэма помсты і прымірэння. На думку К. Занусі, чый погляд на людскія стасункі заўсёды суаднесены з біблейскай мудрасцю, з камертонам адвечных, агульначалавечых духоўных каштоўнасцей, — гэты твор сучасны, востры, спрычынены да рэальнасці, вельмі актуальны з этычнага пункта гледжання, бо вылучае праблемы несправядлівасці, насілля, злачынства, пакарання і пакаяння. Ды і само сцэнічае відовішча, якое вымагае ад гледача нялёгкай душэўнай працы, пэўнай самааддачы, пераконвае: насамрэч, гэта праблемы ўніверсальныя, з якімі так ці інакш сутыкалася ў сваёй гісторыі кожнае грамадства. Праблемы, якія ў той або іншай меры сустракаюцца на жыццёвай дарозе кожнага чалавека. І акцёры-горкаўцы Таццяна Баўкалава (Паўліна), Аляксандр Ждановіч (Херарда Эскабар) ды Валерый Шушкевіч (Раберта Міранда), якіх запрасіў Майстар у свой спектакль, мусілі не тое каб выбітна сыграць гранічна жорсткую, псіхалагічна напружаную сітуацыю, а пражыць — самаахвярна, з аголенымі нервамі, з болем, з пакутамі душы і розуму! — менавіта пражыць перад гледачом гэтую гісторыю...

Рэпеціраваць з беларускімі акцёрамі К. Занусі пачаў гэтым летам, запрасіўшы іх у свой загарадны дом пад Варшавай. З 16 жніўня яны працавалі па 10 гадзін у суткі, разам бавілі вольны час, а 2 верасня прадставілі сваю супольную работу гасцям пана Кшыштафа і яго жонкі. Рэпетыцыі працягваліся ў Мінску, на сцэне, у дэкарацыях і касцюмах мастачкі Эвы Старавейскай...

Напружаны працоўны расклад не замінаў Кшыштафу Занусі знаходзіць час для сустрэч з мінскімі акцёрамі, журналістамі. І кожная размова хутка "разбіралася" яго прыхільнікамі на цытаты, якія папоўнілі калекцыю трапных і мудрых выказванняў Майстра.

"Мастацтва ніколі не выхавае і не навучыць. Калі мастацтва бярэ на сябе ролю настаўніка — мы ўваходзім у таталітарны рэжым. Мастацтва — гэта такі працэс, дзе мы дзелімся з іншым чалавекам нашым досведам і нашым сумнівам. Мы не інжынеры чалавечых душ, гэта быў няправільны выраз. Мы павінны быць заўсёды партнёрам нашага гледача, а не настаўнікам, — разважае Кшыштаф Занусі. — А самы неразумны крытык — той, хто кажа "падабаецца — не падабаецца". Гэта нікому не цікава. Крытык — каментатар, а не суддзя. А меркаванне павінна застацца за гледачом".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: рэжысёр Кшыштаф Занусі і сцэны з яго мінскага спектакля.

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

• Гэтымі днямі ў Рызе праходзіць VIII Нацыянальная выстаўка Беларусі ў Латвіі "Бел-ЭКСПА-2010". Сваю прадукцыю дэманструюць больш як 180 беларускіх прадпрыемстваў. Апроч здабыткаў нашай прамысловасці, на выстаўцы экспануюцца і навінкі айчынай выдавецкага рынку — лепшыя кнігі, альбомы, часопісы.

• Дні культуры Беларусі праходзяць у Абу-Дабі. Тут адбылася выстаўка карцін беларускіх мастакоў, выступіў ансамбль "Харошкі", а Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета паказаў балет "Рамэа і Джульета". Напярэдадні мерапрыемства быў выдадзены гід-даведнік "Беларусь" на арабскай мове.

• Французскі мастак Рафаэль Зарк прадэманстраваў мінскай публіцы свой фільм пра Нацыянальную бібліятэку Беларусі, якая зацікавіла яго незвычайнай формай. Цягам васьмі гадоў мастак шукаў розныя ўвасабленні формы ромбакубаактаэдр, і самае вялікае знайшоў у Мінску.

• У Слоніме прайшлі святкаванні з нагоды 280-годдзя каранавання цудатворнай іконы Маці Божай Жыровіцкай. Святкаванне адбывалася з удзелам каталіцкіх біскупаў Беларусі, духавенства, вернікаў лацінскага і ўсходняга абраду. Абраз захоўваецца ў галоўным алтары касцёла святога Андрэя Апостала ў Слоніме.

• Скрыпку XVII ст. работы Андрэа Гварнэры набыла Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Скрыпка зроблена ў італьянскім горадзе Крэмона ў 1673 годзе. Граць на ўнікальным інструменце будуць адораныя скрыпачы падчас удзелу ў прэстыжных міжнародных конкурсах.

• У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстаўка фотаздымкаў "Нябачаная Літва" вандроўніка Марыуса Явойшы. Тут экспануюцца работы, які ўвайшлі ў ягоны фотаальбом, што стаў адным з найбольш пасяховых літоўскіх выданняў аэрафотаздымкаў пейзажаў і гарадоў Літвы.

• У Мінску выйшла кніга доктара філалагічных навук Арсена Ліса "Gloria victis!" ("Слава пераможаным!"). У 750-старонкавае выданне ўвайшлі нарысы пра беларускіх дзеячаў, напісаныя ў апошнія 50 гадоў. Сярод персаналій даследавання – навуковец Браніслаў Тарашкевіч, драматург Леапольд Родзевіч, географ Аляксандр Смоліч, паэты Станіслаў Шыманоўскі, Алесь Салагуб, Максім Танк, пісьменнік Максім Гарэцкі ды многія іншыя.

• Таварыства беларускай мовы выдала беларуска-англійскі і англійска-беларускі размоўнік у адной кнізе. Адметнасць размоўніка ў тым, што англійска-беларуская частка змяшчае лацінскую транскрыпцыю беларускіх слоў і выразаў.

• Заўтра ў 11 гадзін на сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі пройдуць святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 245-годдзю з дня нараджэння кампазітара. Тут выступяць смаргонскія творчыя калектывы, аркестр Беларускай дзяржаўнай філармоніі "Класік Авангард" выканае творы Агінскага.

Падрыхтавала
Саша ДОРСКАЯ

## Юбілеі

# «Адвечная песня» Янкі Купалы

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы адзначыў 65-годдзе з дня адкрыцця першай экспазіцыі.**

Музей Янкі Купалы — сапраўдны храм для наведвальнікаў. Дзякуючы найбагацейшым цікавым калекцыям, выставам, культурна-адукацыйным праграмам ён знаёміць публіку са скарбніцай паэзіі Песняра, што стала духоўным стрыжнем і адлюстраваннем лепшых культурных здабыткаў беларускага народа.

Адзін са старэйшых літаратурных музеяў краіны быў заснаваны 25 мая 1944 года і адчынены для наведвальнікаў 20 верасня 1945 года. Першым яго дырэктарам стала жонка паэта Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Спачатку музей размяшчаўся ў Доме прафсаюзаў, потым займаў некалькі пакояў у будынку Саюза пісьменнікаў Беларусі, а ў 1959 годзе пераехаў у новы будынак, спецыяльна ўзведзены на тым месцы, дзе да вайны жыў Янка Купала.

Сёння ў васьмі экспазіцыйных залах музея плошчай больш за 500 квадратных метраў прадстаўлены жыццё і творчасць Песняра: унікальныя рукапісы, дакументы, асабістыя рэчы, прыжыццёвыя выданні твораў Янкі Купалы, рэдкія фотаздымкі, фоназапісы выступленняў.

Павіншаваць музей са святам прыйшлі яго сябры, паэты і пісьменнікі, былыя супрацоўнікі, аматары творчасці Янкі Купалы.

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Мацевасян зачытала віншаванне пляменніцы Песняра Ядвігі Раманоўскай і адзначыла: "Гэтая святая мясціна лічыцца моцнай духоўнай падтрымкай для ўсёй Беларусі. Я вельмі спадзяюся, што маладое пакаленне будзе заўсёды працаваць на купалаўскай ніве і падтрымліваць яго традыцыі".



Намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуш Стружэцкі падкрэсліў: "Сёння музей Янкі Купалы — вядучы музей Беларусі. Тут сапраўды захаваўся дух творчасці Песняра, усё дыхае беларушчынай. Безумоўна, імя Янкі Купалы вельмі важкае не толькі для беларусаў, але і для людзей іншых краін".

Старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы, доктар філалагічных навук, прафесар Вячаслаў Рагойша прызнаўся: "Я з цэўяй Уладзяй быў у вельмі добрых адносінах. Калі яшчэ быў студэнтам першага курса БДУ, дапамагаў будаваць музей Янкі Купалы. Сам я з Ракава. Там, можна сказаць, мог нарадзіцца Янка Купала, бо яго бацькі тры гады да нараджэння Песняра арандавалі там кавалак зямлі. Дык прывёз адтуль жменьку зямлі і нікому не гаворачы падмяшаў яе ў цэмент. Таму, сапраўды, я зрадніўся з гэтым музеем".

У межах свята музея адбылося ўрачыстае адкрыццё юбілейнай выставы "Глянуць будучыні ў вочы…". Адметнасць выставы — ва ўнікальнасці экспанатаў, якія ў большасці ніколі не экспанаваліся. Вялікая заслуга ў пошуках, набыцці, захаванні рукапісаў, асабістых рэчаў пісьменніка і яго паплечнікаў належыць Уладзіславе Францаўне. Гэтыя матэрыялы і паклалі пачатак фондавых калекцый музея.

На выставе "Глянуць будучыні ў вочы…" прадстаўлены ўнікальныя матэрыялы з калекцыі асяроддзя Янкі Купалы — Б. Эпімаха-Шыпілы, Я. Сушынскага, П. Мядзёлкі, М. Лужаніна, Ф. Турука, жонкі паэта і яе брата В. Станкевіча, а таксама асабістыя рэчы паэта.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў перадаюць у музей памятны сувенір ад Саюза пісьменнікаў Беларусі..

Фота Кастуся Дробава

## Прэс-канферэнцыі

# Зерне новай традыцыі

**Гісторыя беларускіх бібліятэк мае шматвекавую гісторыю і вядзе свой пачатак з XI стагоддзя. Менавіта тады ў полацкім Сафійскім саборы ўзнікла першая наша бібліятэка, што цалкам упісвалася ў працэсы развіцця культуры на ўсходнеславянскіх землях. Зараз установы гэтай сферы імкнуцца ісці ў нагу з агульнаеўрапейскімі тэндэнцыямі і дзе-нідзе нават вырываюцца наперад. Пра гэта ішла гаворка на прэс-канферэнцыі, што адбылася ў Нацыянальным прэс-цэнтры па пытаннях развіцця бібліятэчнай справы ў Беларусі.**

Паводле слоў начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры краіны Уладзіміра Шэвелева, беларускія бібліятэкі адчуваюць значную падтрымку дзяржавы. Сведчаннем гэтага стала чарговае прафесійнае свята іх супрацоўнікаў, якое прайшло па ўсёй рэспубліцы. Уладзімір Мікалаевіч адзначыў, што колькасны і якасны стан бібліятэк, якіх у краіне налічваецца больш за 9.300, цалкам адпавядае стандартам ЮНЕСКА. Адна ўстанова прыходзіцца на 2.400 жыхароў. А 38 працэнтаў бібліятэк прадстаўляюць аўтаматызаванае месца працы.

Старшыня Грамадскага аб'яднання "Беларуская бібліятэчная асацыяцыя" (ББА), дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна Наталля Чуева нагадала, што ББА дзейнічае ўжо 18 гадоў і праводзіць шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на павелічэнне прэстыжу сваіх устаноў, усталяванне сувязей з суседнімі краінамі. Сярод шматлікіх планаў асацыяцыі правядзенне VI міжнародных кнігазнаўчых чытанняў, XVII канферэнцыі "Менеджмент вузаўскіх бібліятэк", канферэнцыі па праблемах абслугоўвання дзіцячага чытача. Значная ўвага надаецца сацыяльнай падтрымцы ветэранаў бібліятэк, якія штогод у сакавіку запрашаюцца на вечар сустрэч. Асацыяцыя прапануе сваім сябрам і прыхільнікам два выданні: "Бібліятэка прапануе" і "Бібліятэчны свет". Галоўным рэдактарам апошняга з'яўляецца Людміла Кіруxіна, якая выступала перад журналістамі і як намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Людміла Генадзьеўна акцэнтавала ўвагу на развіцці камп'ютэрных тэхналогій. Восенню плануецца прадставіць электронны каталог, які аб'яднае фонды ўсіх буйных бібліятэк краіны. Значнае спадзяванне ўскладаецца на прыняцце новага закона аб аўтарскім праве. Мяркуецца, што ён дазволіць змяшчаць электронныя копіі кніг у адкрытым доступе. Гэта будзе самы прагрэсіўны закон на постсавецкай прасторы.

Ля помніка Францыску Скарыне прайшоў мітынг, падчас якога маладыя бібліятэкары прынеслі ўрачыстую клятву і былі прыняты ў шэрагі прадстаўнікоў сваёй прафесіі.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

## Выстаўкі

# Фатаграфічныя паралелі

У мастацкай галерэі "Панарама" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося адкрыццё беларуска-французскай фотавыстаўкі "Паралелі".

Мэта гэтага праекта — паказаць адзінства горада і яго жыхароў у работах фатографаў з розных краін. Парыжанін Цьеры Клеш, мінчанка Вольга Лойка і брэсцянін Віктар Байкоўскі стварылі гэтыя віртуальныя і фатаграфічныя паралелі.

Як адзначыў куратар фотавыстаўкі Фёдар Ястраб, работы вызначаюцца не пэўным сюжэтам, а менавіта пластыкай, дынамікай, рухам.

Серыя французскага фатографа Цьеры Клеша "Sans Défense" ("Безабаронныя перад горадам") прысвечаная дзелавому кварталу Парыжа — Дэфансу. У французскай мове гэтая назва азначае "абарона".



3 Цьеры Клеша наведвальнікі змаглі пагутарыць падчас невялікай аўдыёканферэнцыі.

Фотавыстаўка "Паралелі" будзе працаваць і радаваць наведвальнікаў да 6 кастрычніка.

Ілона КУПРЭЙЧЫК

На здымку: падчас прагляду экспазіцыі.

Фота Кастуся Дробава

## Праекты



У межах праекта "Музычныя вечары ў Вялікім", які ладзіцца Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета, меламанам была прапанавана праграма "Я тебе подарю весь Париж", якую склалі рамансы на вершы паэтаў XIX і XX стагоддзяў на музыку кампазітара Марыны Марозавай.

# Сярод аўтараў — сучасныя паэты

Ідэя канцэрта належала беларускай паэтэсе і тэатральнаму крытыку Тацццяне Мушынскай, якая выступіла вядучай праекта. Назву вечара даў радок з аднайменнага рамансa на вершы паэтэсы – фрагмента будучага вакальнага цыкла "Сталіцы свету".

Шырыня дыяпазону і магнетызм кампазітара М. Марозавай, прадэманстраваныя ў праграме, сапраўды ўражваюць. Тэксты дзесяці паэтаў, сярод якіх як славутыя творцы — Максім Багдановіч, Максіміліян Валошын, Аляксей Кальцоў, Адам Міцкевіч, Аляксандр Пушкін, так і сучасныя беларускія аўтары — Наталля Давідовіч, Іван Жданович, Сяргей Красікаў, Тацццяна Мушынская, Наталля Шэмецянкова. Разнастайнасць жанраў — рамансы, песні, вакальныя цыклы, інструментальныя творы. Багацце творчых індывідуальнасцей выканаўцаў — народнай артысткі Беларусі Наталлі Рудневай, салістаў беларускай оперы Наталлі Акінінай, Уладзіміра Громава, Сяргея Лазарэвіча, Настассі Масквіной, Янаша Нелепы, Алены Сіняўскай і Тацццяны Траццяк, струннага квінтэта "Серэнада", а таксама спецыяльна запрошаных музыкантаў.

Сваёй праграмай М. Марозава ўнесла важкую заяўку на ўспрыманне яе не толькі як аднаго са шматлікіх таленавітых беларускіх кампазітараў, а як глыбокага паўнаваратаснага творцу.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На здымку: спявачка Тацццяна Траццяк.

Фота Андрэя Спрынчана

## Літ-абсягі

Зместам і афармленнем кніга "Евгений Глебов. Судьбы серебрянные струны" нагадвае выданні "ЖЗЛ": менавіта з гэтай серыі выраслі асобныя праекты "Беларусь музычная" і "Мастакі Беларусі". У кнізе змешчаны ўспаміны пра кампазітара, прысвечаныя яму вершы, "урыўкі з ненапісанага" — размовы з Яўгенам Глебавым, у якіх кампазітар распавядае пра творчасць і працу, выказвае вельмі слушныя і аб'ектыўныя меркаванні.

Складальніца кнігі — Ларыса Глебава — вельмі цікава і цёпла расказала пра жыццё свайго мужа, пераказала яго ўспаміны, згадала перажытае разам. Думка аб стварэнні кнігі з'явілася ў Ларысы Васільеўны падчас працы над архівам кампазітара, дзе ў паперах было знойдзена даволі шмат афарызмаў, запісаў, нататак. Яшчэ ў 2004 годзе Ларыса Глебава напісала ўласныя ўспаміны, пасля трэба было звяртацца да сяброў і вучняў мужа. "Для мяне асабліва кранальна, што практычна ўсе, каго я прасіла напісаць пра Яўгена Аляксандравіча, адразу згадзіліся гэта зрабіць. Значыць памяць пра яго жыве… У стварэнні кнігі ўзялі ўдзел 50 чалавек — і ў кожным

# Кампазітар. Мастак. Асоба

У гарадской музычнай школе № 10 імя Яўгена Глебава адбылася прэзентацыя новай кнігі выдавецтва "Мастацкая літаратура": "Евгений Глебов. Судьбы серебрянные струны", што распачынае серыю "Беларусь музычная". У гэты дзень вядомаму кампазітару мог споўніцца восемдзесят адзін год. Яго балеты "Ціль Уленшпігель" і "Маленькі прынц" мелі поспех у Расіі і Фінляндыі, сучаснікі ацэньваюць Глебава як першага беларускага кампазітара, што выйшаў на сусветную арбіту…



успаміне для мяне было істотна ўбачыць нейкае зерне, ухапіць адценне выкладання, ракурс бачання гэтага аўтара, — распавядае Ларыса Васільеўна. — Я рабіла кнігу, каб захаваць памяць пра Яўгена Аляксандравіча, каб развеяць шматлікія міфы пра Глебава, якія існуюць да гэтага часу".

Сярод аўтараў эсэ, прысвечаных Яўгенію Глебаву, — В. Елізар'еў, А. Мдзівані, М. Фінберг, Я. Паплаўская. Л. Вольскі называе кампазітара сваім гуру, А. Дудараў згадвае, як Яўген Аляксандравіч раіў не звяртацца да музычнай энцыклапедыі… Вядомы кампазітар быў добрым сябрам Васіля Быкава: "Глебов о Быкове, Быков о Глебове" – падборка адпаведных лістоў, рэцэнзій, водгукаў. У якасці дадатку да кнігі прапануецца дыск з запісам музыкі Яўгена Глебава да балета "Маленькі прынц", які (увага меламанам!) будзе прадавацца асобна.

Прэзентацыя кнігі адбылася падчас традыцыйнага канцэрта, прымеркаванага да дня нараджэння Яўгена Глебава. Славуты кампазітар пры жыцці цесна супрацоўнічаў з калектывамі і выкладчыкамі сталічнай музычнай школы № 10, таму з 2001 года яна носіць імя Яўгена Глебава. Яго творы выконваюцца на ўсіх 22 інструментах, на якіх сёння граюць у музычнай школе.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

На здымку: аўтар кнігі "Евгений Глебов. Судьбы серебрянные струны" Ларыса Глебава падчас прэзентацыі выдання.

Фота Юліі Ваўчок.

## Арт-лінія

Два дні працягваўся ў Мсціславе IX фестываль мастацтваў імя Мікалая Чуркіна — унікальнае асветніцкае свята, якое ладзіць тут, пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны, абласных і мясцовых улад, Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі. Гэтая акцыя сталася яркім духоўна-эстэтычным унёскам не толькі ў жыццё старажытнага горада, але і ў вялікі мастацкі свет нашай Бацькаўшчыны.

Той, хто сочыць за музычна-асветніцкай дзейнасцю Нацыянальнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга, ведае канцэптуальныя адрозненні кожнага з такіх фэстаў, што праводзяцца ў невялікіх беларускіх гарадах і мястэчках. Праз мсціслаўскія імпрэзы калектыў ажыццяўляе свой доўгатэрміновы праект па вяртанні беларускай класікі XX стагоддзя ў сённяшні музычны кантэкст. Як ні дзіўна і як ні прыкра, гэты значны пласт айчыннай культуры напаткала забыццё: з рэпертуару зніклі творы, вартыя ўвагі выка-

# Мсціслаў вітаў... Шапэна



навуцаў і слухачоў; з поля зроку сучаснікаў — дзясяткі кампазітарскіх імёнаў... А дзякуючы М. Фінбергу і яго спадзвіжнікам беларуская музыка нядаўняга часу перажывае цяпер свой рэнесанс, і найперш — у тэматычных мсціслаўскіх канцэртах, якія вядзе доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава.

"Тэматычная скіраванасць фэсту ў Мсціславе выбрана не адвольна, — кажа М. Фінберг. — Гэтая зямля, багатая на таленты і гожыя мелодыі, стала творчай радзімай аднаго з заснавальнікаў беларускай кампазітарскай школы Мікалая Чуркіна. Менавіта тут ён стварыў першую нашу нацыянальную оперу савецкага часу "Вызваленне працы". Гэта было ў 1922 годзе, калі кампазітар плённа настаўнічаў і кіраваў мастацкай самадзейнасцю ў Мсціславе. Адсюль — той творчы імпульс, што дазволіў Чуркіну, ураджэнцу Каўказа і спадкаемцу традыцый рускай культуры, стаць сапраўдным класікам беларускага музычнага мастацтва. А гасцінная Мсціслаўшчына сёння слухае і прымае лепшыя творы нашых кампазітараў".

Сёлета публіка пазнаёмілася з манаграфічным праектам, прысвечаным 100-годдзю Пятра Падкавырава; з прэм'ерай праграмы "Беларуская музыка XX стагоддзя на творчай радзіме М. Чуркіна", дзе ў выкананні камерных калектываў аркестра прагучалі новыя аранжыроўкі незаслужана забытых твораў. Знакамітыя п'есы Фрыдэрыка Шапэна ў арыгінальных аркестравых версіях уключаў канцэрт "Шапэн у музычнай культуры Беларусі". Яго дапоўніла вобразнасць дзіцячых малюнкаў, прысвечаных 200-годдзю кампазітара і прадстаўленых у экспазіцыі, якую прывезла на свята кіраўнік студыі выяўленчага мастацтва Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода Святлана Купрыянава...

Запомніцца жыхарам раёна і творчая сустрэча з М. Фінбергам, і эстрадны гала-канцэрт пад кіраўніцтвам маэстра "Прывітанне Мсціславу!" на вечаровай плошчы... Атрымаўся шчодры музычны падарунак для шматлікіх гасцей традыцыйнага восеньскага свята, на якім ушаноўвалі лепшых землякоў Мсціслаўшчыны.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: музыканты аркестра.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

Армянская музыка, танцоры ў нацыянальных касцюмах, прамовы прадстаўнікоў пасольства Евы Гаранян і Сарыса Вахарыяна — здавалася ўся Арменія (няхай і ў мініяцюры) адзначае сваё свята ў невялічкай зале ў цэнтры Мінска.

Але, напэўна, самым цікавым і сімвалічным момантам стала выступленне паэта Ганада Чарказяна. Выхадзец з Арменіі і беларус па грамадзянстве, Ганад Чарказян з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Акрамя ўласных вершаў, паэт часта займаецца перакладамі нашых класікаў — Коласа, Купалы, Багдановіча на родную мову, а Рыгор Барадулін перакладае вершы Ганада Чарказяна на беларускую. Вось такое міжмоўнае, міжкультурнае творчае супрацоўніцтва!

Як гаворыць сам Ганад Бадрыевіч, ён вельмі ганарыцца сваёй Радзімай, якую пакінуў у дваццацігадовым узросце, але выдатна памятае яе традыцыі, гісторыю, мову. "Ведаеце, наватмногія старажытныя сірыйскія, фінікійскія запісы вучоныя ўзнаўляюць менавіта з армянскіх крыніц", — з гонарам дадае Г. Чарказян. Але не меншую павагу выклікае ў пісьменніка і Беларусь. Спакойна і ўрачыста чытае ён уласны пераклад на армянскую мову рамана "Зорка Венера" Максіма Багдановіча. Незразумела было ні слова, але там, за іншамоўнымі радкамі ўсё ж такі адчувалася заварожваючая меладычнасць верша беларускага класіка, хай сабе і прадстаўленая іншай мовай.

# «Зорка Венера» па-армянску

Больш за дзве тысячы кіламетраў раздзяляе Беларусь і Арменію. Праўда, нягледзячы на тэрытарыяльную адлегласць, паміж краінамі існуе не толькі эканамічная і палітычная сувязь, але і духоўная. Пацвярджэннем таму стаў канцэрт, прысвечаны Дню незалежнасці Рэспублікі Арменія, які прайшоў у сталічным Доме дружбы.



Пасля прачытання рамана Ганад Чарказян адзначае, што вельмі важна захоўваць і развіваць паміж краінамі культурныя сувязі, якія хоць у нечым аб'ядноўваюць народы, робяць іх вернымі сябрамі. "Напэўна, менавіта такія духоўныя ніткі, — прызнаецца пісьменнік, — і вымушаюць мяне, жывучы ў Беларусі, па-ранейшаму ўсе свае запісы, дзённікі весці на роднай мове."

На беларускай зямлі заўжды паважалі і паважаюць культурныя здабыткі іншых нацый, і хочацца, каб і за мяжой з такой жа павагай адносіліся да нашых традыцый. Зрэшты было б вельмі добра, каб у далёкай Арменіі 3 ліпеня хтосьці з тамтэйшых паэтаў беларускага паходжання ўрачыста зачытаў бы ўласны пераклад на родную мову аднаго з армянскіх класікаў.

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: у зале — Ганад Чарказян і Навум Гальпяровіч.

Фота Кастуся Дробава

## З-пад пяра

У Літве прайшлі Дні культуры Беларусі. Ва ўрачыстасцях бралі ўдзел вядомыя мастацкія дзеячы, прадстаўнікі міністэрстваў дзвюх краін на чале з міністрам культуры Беларусі Паўлам Латушкам і міністрам культуры Літвы Арунасам Гелунасам. Усяго ў складзе беларускай дэлегацыі прыехала каля 170 чалавек. Першай падзеяй стала адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар 170-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча на вуліцы Арклю. Таксама ў межах Дзён культуры прэзентавалася выстава "Іван Хруцкі ў дыялогу культур" да 200-годдзя мастака, прайшоў канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, прайшло свята беларускай песні. На сцэне Літоўскага нацыянальнага тэатра драмы былі паказаны спектаклі "Пінская шляхта" і "Translations".

С.Д.

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылося адкрыццё выстаўкі "Музеі-сядзібы: вытанчаны стыль італьянскага жыцця". Яна арганізавана Пасольствам Італіі ў Рэспубліцы Беларусь і працягнецца да 10 кастрычніка. Як адзначыў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргей Вечар, з італьянскім пасольствам падтрымліваюцца вельмі даўнія і плённыя стасункі. І гэта ўжо не першы такі выставачны праект. Выстаўка ўразіла прысутных дызайнерскім падыходам. Публіцы прадстаўлены фатаграфіі дзесяці італьянскіх музеяў-сядзіб, якія адлюстроўваюць стыль жыцця іх колішніх гаспадароў. Гэта каралеўскія палацы і арыстакратычныя сядзібы, хаты калекцыянераў і дзеячаў культуры, гарадскія кватэры і жыллё сялян. На прэзентацыі прысутнічаў і аўтар фотаздымкаў — вядомы рымскі фатограф Амар Кейраў, а таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Абецi Арнальда.

Ілона КУПРЭЙЧЫК

Народнае літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Рунь", якое плённа працуе пры Валожынскім РЦК, ладзіла сумесна з раённай бібліятэкай літаратурна-пазнавальную сустрэчу для вучняў і настаўнікаў — "Мова родная Богам дадзена". Валожынская зямля асвечаная такімі слаўнымі імёнамі як Сымон Буды, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Канстанцыя Буйло, Пятро Бітэль… Сёння яе ўжо праслаўляюць вядомыя беларускія літаратары і навукоўцы Віктар Шніп, Тэрэза Голуб, Ганна Запартыка, Язэп Янушкевіч, Міхась Кумула ды многія іншыя. Аб моцных літаратурных каранях Валожыншчыны гаварыла дырэктар Валожынскай ЦБС Ірына Зінько. У аўтарскім выкананні прагучалі вершы кіраўніка "Руні" Валянціны Груць-Русакевіч (яна ж арганізатар і адна з вядучых мерапрыемства), удзельнікаў гэтай творчай суполкі Ганны Кананові̇ч, Марыі Шакун, Уладзіміра Буракоўскага, а таксама метадыста аб'яднання Міхася Курылы. Людміла Краснадубская выканала ўласную песню "Малітва" на словы В. Груць-Русакевіч.

П.М.

У верасні ў сталічнай галерэі "Універсітэт культуры" праходзіць выстаўка пад назвай "Арт-авантаж-2010". Імпрэзу арганізавалі рэктараты Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Паводле арганізатараў, мэта мерапрыемства — давесці да шматлікіх гледачоў тэатральнасць моды. Фотаздымкі адлюстроўваюць незвычайны погляд студэнтаў на вопратку, а менавіта: спробу прыстасаваць авангардную моду да паўсядзённасці.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА

Галерэя "Акадэмія" Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў заўсёды радуе наведвальнікаў наватарствам студэнцкага погляду на сучаснае мастацтва. Цяпер тут праходзіць выстаўка фатаграфіі "Калаж". На фотаздымках — абрысы шматлікіх вуліц, дамоў і праспектаў беларускай сталіцы. Асноўная частка экспазіцыі створана прадстаўнікамі факультэта экранных мастацтваў.

Ул. інф.

# Закон павінен павярнуць беларускае грамадства да роднай мовы

Першавераснёўскія дні для беларусаў сталі гістарычна адметнымі. Уступіў у дзеянне прынятых два гады таму Закон "Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Законам зацверджана новая рэдакцыя беларускага правапісу, якая ўяўляе сабой найбольш поўны звод сучасных арфаграфічных і пунктуацыйных нормаў. Чаму на пачатку ХХІ ст. спатрэбіўся гэты закон і навошта трэба было ўносіць карэктывы ў дзеючы правапіс? На пытанні карэспандэнта "ЛіМа" адказвае дарадца міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Віктар Іўчанкаў.



— Шаноўны Віктар Іванавіч, якім быў ваш шлях у мовазнаўства?

— Ён пачаўся з першых курсаў навучання на філфаку ў Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна. Мне трапіліся цудоўныя выкладчыкі, зусім непадобныя адзін на аднаго, але аб'яднаныя любоўю да сваёй прафесіі, вялікай пашанай да яго вялікасці слова. Я быў улюбёны ў літаратуру, але мова, з яе шматлікімі таямніцамі і лагічнай ладнасцю, вабіла больш. Па той прычыне, што лінгвістыка здавалася неабсяжнай і недасягальнай, лекцыі выкладчыкаў-мовазнаўцаў асабліва былі асабліва цікавымі. Напрыклад, на лекцыі інтэлектуалкі і арыстакраткі дацэнта Мацільды Дзямідавай я браў падручнікі па сучаснай рускай літаратурнай мове, па якіх умудраўся суадносіць пачутае і напісанае. Была вялікая адказнасць за веды, за тое, што на цябе спадзяюцца і чакаюць аддачы. Актыўна выступаў на студэнцкіх навуковых канферэнцыях. На адной з такіх нечакана для сябе атрымаў ажно тры дыпломы першай ступені за лепшыя навуковыя даклады, што выклікала пэўнае недаўменне не толькі ў аднакурснікаў, а нават і ў выкладчыкаў. Быў накіраваны на канферэнцыю ў Новасібірск, куды паз'язджалася студэнцтва ўсяго Савецкага Саюза. Прывёз дыплом другой ступені, падпісаны прафесарам А. І. Фёдаравым. Для мяне і маёй сям'і — мамы, братоў і сястры — гэта была вялікая радасць. Віншавалі мяне з гэтай нагоды і на вучоным савеце факультэта. Дыпломная праца, прысвечаная вывучэнню стылю рускага пісьменніка Ю. Казакова, стала пасля першай кніжачкай. Адразу пасля заканчэння інстытута паступіў у аспірантуру Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, дзе датэрмінова да заканчэння аспірантуры абараніў кандыдацкую дысертацыю па мове Уладзіміра Караткевіча.

Яшчэ ў аспіранцкія гады і асабліва на пачатку 1990-х, калі ўсе адчулі павеў незалежнасці, мы з сябрамі сталі асэнсавана звяртаць увагу на некаторыя недарэчнасці ў беларускім правапісе. Ужо працуючы на факультэце журналістыкі БДУ, я падрыхтаваў курс па арфаграфіі беларускай мовы, стаў актыўна друкавацца па надзённых пытаннях арфаграфіі.

Мой першы газетны артыкул па тэме правапісу "Галасаваць за мяккі знак, ці адчуваць яго?", змешчаны ў газеце "Чырвоная змена", быў прысвечаны праблеме адлюстравання на пісьме асіміляцыйнай мяккасці. Ён адрасаваўся народным абраннікам і заклікаў не браць правапісныя вяршыні гучнымі галасамі, адчуваць мову. Тады і пачалося інтэнсіўнае ўключэнне ў праблемы правапісу, што было хутчэй хобі, а не магістральнай даследчай тэмай. Бо мае навуковыя погляды ўжо тады сталі фарміравацца пад уплывам прац галандскага вучонага, заснавальніка дыскурснага аналізу СМІ, Тэуна ван Дэйка.

Пасля ж так сталася, што міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў прызначыў мяне адным з намеснікаў старшыні рабочай групы па дапрацоўцы праекта "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі".

— У жніўні выйшлі дзве вашы кнігі па беларускім правапісе: "Беларуская арфаграфія: апавяданні і гісторыі" і "Беларускі правапіс у апорных схемах. Паводле новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Пяцітысячная тыражу апошняй кнізе не хапіла, і выдавецтва "Пачатковая школа" мусіла друкаваць яшчэ столькі ж паасобнікаў. Вы з'яўляецеся аўтарам шматлікіх рубрык: "Пішам па-беларуску" ў "Народнай газеце", "Урокі беларускага правапісу ад Віктара Іўчанкава" ў "Настаўніцкай газеце", а таксама ў часопісах "Беларуская мова і літаратура", "Роднае слова", "Пралеска", "Пачатковая школа". Трэці год праводзіце аўтарскі семінар "Беларускі правапіс: традыцыі, пераемнасць і перспектывы". На ім павысілі кваліфікацыю сотні выкладчыкаў роднай мовы, загадчыкаў кафедраў, рэдактараў, журналістаў, супрацоўнікаў розных міністэрстваў і ведамстваў. Ваша асветная праца заслугоўвае самых адмысловых слоў. Скажыце, якія змены, што адбыліся ў беларускім правапісе, падаюцца вам галоўнымі?

— Пры распрацоўцы закона нам неабходна было, папершае, зняць супярэчнасці, якія ішлі з пачатку ХХ ст.: чаму ва універсітэце, чаму васемнаццаць? Былі і больш турботныя пытанні, якія межавалі з палітыкай. Да апошняга часу словы кштালту газпром, выканком пісаліся ў нас, як і ў рускай мове, праз о. Хутчэй за ўсё, суб'ектыўныя фактары вызначалі і напісанне слоў дзесяты, дзевяты, семнаццаць, васемнаццаць, у якіх зараз будзе пісацца я ў першым складзе перад націскам. Асноўныя змены датычаць галосных. Мова — гэта ладная, стройная сістэма, якая не любіць выключэнняў, хаця ў кожнай мове свету іх шмат. Ад нематываваных выключэнняў варта пазбаўляцца.

— У перагледжаных правілах, здаецца, таксама ёсць выключэнні… Так, вырашана пісаць лідар, скутар, але ўласныя імёны павінны сканчацца на -эль і -эр: Одэр, Юпітэр…

— Гэта ўдакладненне прыйшлося ўнесці пасля абмеркавання праекта закона ў Палаце прадстаўнікоў. Выпадак можна расцэньваць як пераходны да большага пашырэння акання. І на гэта прыйдзе час, але, відаць, гэта зробяць нашы нашчадкі. Паводле закона колькасць выключэнняў значна зменшылася. Наяўнасць жа дыферэнцыраваных напісанняў – з'ява нармальная.

— Якія правілы былі найбольш "працаёмкімі"?

— Вялікай увагі запатрабавала рэгламентаванне правапісу вялікай літары. Вялікая літара — гэта складаная праблема: ёю можна штосьці ўзвялічыць, штосьці ўвекавечыць. Яна часцінка нашага менталітэту, бо ў адных мовах да яе звяртаюцца часцей, у іншых радзей... Намі былі ўнесены змены ў правапіс рэлігійных святаў і царкоўных пасад: зараз такія словы пішуцца з вялікай літары. Як ні дзіўна, падчас абмеркавання закона было шмат апанентаў таго, што Бог, Божая Маці павінны пісацца з вялікай літары. Часам здаецца, што ў вырашэнні гэтага пытання нам дапамагалі вышэйшыя сілы.

— Між простага народа ёсць меркаванне, што навукоўцы адседжваюцца на пасадах і ад няма чаго рабіць змяняюць правілы, займаюцца драбязой. Як праходзіла праца рабочай групы па распрацоўцы закона?

— Гэта вы пра якіх навукоўцаў? Можа, ёсць і такія, але сябе да іх не адношу, бо штодня ў аўдыторыі. Праца была вельмі інтэнсіўнай: спачатку рабочая група збіралася раз на тыдзень, мы пераглядалі кожную норму… Напрыканцы адведзенага тэрміну мы сустракаліся амаль штодня, працавалі да стомы. Праца ішла даволі спакойна, бо ў абмеркаванні ўдзельнічалі сапраўдныя спецыялісты, якія з павагай ставіліся да думкі калег.

— Хто ўваходзіў у склад рабочай групы? Ці шмат было там маладых вучоных?

— Арбітрам у спрэчках быў аўтарытэтны лінгвіст прафесар Арнольд Міхневіч. Група складалася з 11 чалавек, што было добра. Пры большай колькасці ўдзельнікаў цяжка знаходзіўся б кансэнсус. Хаця пасля наш склад зменшыўся да 7 чалавек. У распрацоўцы закона прымалі ўдзел свежыя маладыя сілы, у тым ліку студэнты, інтэрнэтчыкі, вучоныя і простыя людзі, якія дасылалі нам свае пытанні і заўвагі. Так, адзін вучоны-фізік даслаў цэлы шэраг тэрмінаў з просьбай перакласці іх на беларускую мову. Сярод нашай моладзі шмат людзей, неабыякавых да лёсу роднай мовы…

— Якой была гісторыя закона?

— Неабходнасць змен стала відавочнай у пачатку 1990-х. У 1992 годзе адбылася канферэнцыя па праблемах правапісу ў Інстытуце мовазнаўства. Пасля ўрадам краіны была створана дзяржаўная камісія па ўдасканаленні правапісу. І толькі ў 1997 годзе на чале з акадэмікам А.Падлужным навуковы калектыў распрацаваў праект новага зводу правапісу. Падрыхтаваны імі дакумент доўга "адстойваўся" — нарэшце ў 2006 годзе пачалася актыўная яго дапрацоўка. У прапанаваных акадэмічнымі вучонымі правілах моцна адчувалася фанетыка, якая не зусім суадносілася з чыста арфаграфічнымі пытаннямі, некаторыя змены выклікалі пярэчанне. Напрыклад, прапаноўвалася пакінуць партком, райвыканком, падавалася не зусім натуральнае адажыё, Токіё і інш.

— Зыходзячы з чаго рабочая група ўносіла змены ў старыя нормы?

— Галоўнае, чым мы кіраваліся — гэта заканамернасці, што існуюць у мове. Беларускае мовазнаўства, як ніводнае славянскае, мае вялікі грунт з дыялекталагічных і лексікаграфічных даследаванняў. Гаворкі былі крынічным дарам народнай, не зрусіфікаванай мовы… Дзякуючы ім зафіксаваны галоўныя тэндэнцыі, уласцівыя нашай мове. Так, наша характэрная адметнасць — наяўнасць у нескладовага. Словы-запазычанні ж павінны падлягаць законам развіцця той мовы, у якую трапілі. Таму сёння адпаведна вымаўленню мы будзем пісаць раўнд і клоўн, выключэннямі застануцца толькі словы на — ус і — ум. Хіба ўсе выпраўленыя намі недарэчнасці не ляжалі на паверхні?!

— Чаму, на вашу думку, новыя правілы ўпершыню маюць сілу закона?

— Былі розныя прапановы: выдаць іх як пастанову Акадэміі навук ці зацвердзіць урадавым дакументам. Але пасля працяглых абмеркаванняў было вырашана, што змены ў правапісе павінны быць зацверджаны заканадаўчым актам, а гэта значыць разгледжаны народнымі абраннікамі. Закон павышае статус роднай мовы і павінен павярнуць беларускае грамадства да стану яе функцыянавання. З беларускай мовай сутыкаецца кожны наш грамадзянін, таму правапіс — вельмі далікатная рэч. Зрэшты, калі правілы дарожнага руху зацверджаны законам, то хіба правілы роднай мовы маюць меншае значэнне для краіны? Натуральна, дзяржава не будзе караць кожнага за арфаграфічную памылку, але калі закону не будзе падпарадкоўвацца афіцыйны орган, павінны прымяняцца меры адміністрацыйнага спагнання.

— Ці магчыма будзе штосьці змяніць у правілах, калі з цягам часу высветліцца, што некаторыя пункты надта складаныя або выклікаюць пярэчанні?

— Закон непарушны, змяніць яго складана. Але трэба ўсведамляць, што "Правілы", зацверджаныя законам, — гэта тоненькая кніжачка, якая не можа дапамагчы ва ўсіх канкрэтных выпадках. Чаму такімі аўтарытэтнымі для носьбітаў рускай мовы сталі даведнікі Разенталя? Дзітмара Эльшавіча даўно няма, а яго даведнікі, бы жывыя, папаўняюцца новымі рэкамендацыямі. І робяць гэта яго вучні. Навуковец развіў правілы, прынятыя ў 1956 годзе, расклаў усё па палічках... У нас такога вучонага не знайшлося. А ён вельмі патрэбны нашай мове…

Прынятыя правілы даюць уяўленне толькі пра асноўныя прынцыпы, іх варта развіваць у даведніках, слоўніках і падручніках… Адзначу цікавую акалічнасць. Звычайна змены ў правапісе суправаджаюцца грамадскімі ўзрушэннямі: нешта кардынальна мяняецца ў жыцці і адпаведна рэфармуецца правапіс. Так, рэформа 1917 — 1918 гг. рускай арфаграфіі рэхам дайшла да нас у 1933 годзе. Рускі правапіс быў удасканалены падчас хрушчоўскай адлігі, што нам адгукнулася ў 1959 годзе. Сёння мы не пайшлі за суседзямі, а зрабілі беспрэцэдэнтны крок: выпрацавалі тое, што датычылася ўласна нашай мовы, ліквідавалі анахранізмы савецкага часу, улічылі тэндэнцыі развіцця беларускай мовы.

Гутарыла Ала ЖУР

Фота Кастуся Дробава

Постаць Георгія Марчука вядомая ў беларускім мастацкім дыскурсе дзякуючы розным аспектам яго творчай дзейнасці. Аднак найменей увагі крытыкамі заўсёды надавалася яго драматургічным творам, адрасаваным падрастаючаму пакаленню. Хоць гэты багаж пісьменніка параўнальна важкі. Трэба адразу агаварыцца, што п'есы Г. Марчука ў многім маюць універсальна-ўзроставую скіраванасць. Тым не менш ёсць цэлы шэраг твораў, адрасаваных найперш маладому чытачу.

# У пошуках нестандартнасці

## Драматургія для дзяцей Георгія Марчука

Пачаткам творчасці Г. Марчука на гэтай літаратурнай дзялянцы можна лічыць камедыю-лубок "Новыя прыгоды Несцеркі" (1977), у якой аўтар не абышоў бокам класічны сюжэт пра героя народнай смехавой культуры Несцерку, што сведчыць пра яго арыентацыю на фальклорныя і літаратурныя традыцыі. Пісьменнік, як заўважае І. Штэйнер, "не прэтэндуе выключна на "прысваенне" класічнага вобраза, а "толькі" апавядае аб новых прыгодах любімага ўсімі героя. Разам з тым ён рашуча абазначае маральнае крэда персанажа. <…> Такая выразная аўтарская ўстаноўка прыводзіць да таго, што жывымі, паўнакроўнымі з усіх дзеючых асоб успрымаюцца якраз галоўны герой са сваімі сябрамі. Астатнія ж паўстаюць як асобы дэкарацыйныя". Тым не менш і да партрэта Несцеркі, які "і гора перахітрыць", дадаюцца новыя штрыхі, і характары іншых герояў выпісаныя бліскуча. Традыцыйна прадстаўнікі народа (каваль Аксён, яго дачка Анця) выяўляюць высакароднасць у адрозненне ад пыхлівых падпанкаў.

Пазней Г. Марчук заявіў пра сябе ўжо як свайго роду парушальнік традыцый. Яго п'есы-казкі вылучаюцца стракатасцю антуража і дзеючых асобаў. Дзеянні ў іх адбываюцца як у далёкіх экзатычных краінах ("Тушканчык і чароўны чамаданчык" (1984) і "Надзея сабакі Тэафіла" (1988), так і, здавалася б, зусім побач, толькі чытачам трэба "распазнаць" свет, падзеі якога выпісаны пісьменнікам ("Ясь, Яніна і каралева Аварыя", (1985). Гэтым аўтар пашырае кола тэм і праблем, дапамагае чытачу ўбачыць іх збоку. Зразумела, агульнае, гуманістычнае крэда твора захоўваецца ў любым выпадку, яно — як маяк для творцы і юнага чытача, які прывык яму давяраць. Нестандартным жа падыходам, думаецца, толькі прываблівaецца дзіцячая аўдыторыя, гатовая следам за аўтарам пайсці ў краіну незнаёмага і незвычайнага.

У беларускіх п'есах-казках неаднаразова дзеючымі асобамі выступалі жывёлы. Аднак, за рэдкім выключэннем, гэта былі прадстаўнікі беларускай фауны. Г. Марчук удала задзейнічаў у адным творы жыхароў розных геаграфічных паясоў. Казка "Тушканчык і чароўны чамаданчык" у прыгодніцкім стылі апавядае, як насельнікі беларускіх лясоў (Лось і Заяц), якія ўпадабалі тушканчыка Мікітулю і Сусліка за іх імкненне дапамагчы люду роднай зямлі, дапамагаюць перамагчы тырана Пузатага-паласатага, што захапіў уладу ў краіне Тушканіі. Прычым ім трэба прайсці шэраг выпрабаванняў: перамагчы праціўніка са свайго лесу (злую Рысь), вылечыць волата Зубра (тут і прыйшоўся дарэчы чароўны чамаданчык), які пасля разбіў варожую пагоню за тушканчыкам. Вобразы працуюць і на ідэю інтэрнацыянальнай дружбы. Г. Марчук такім чынам вельмі ўдала прадэманстраваў, што і мастацкасць можа быць у ладах з кан'юнктурай, але толькі тады, калі ў гэтым тандэме дамінуе першая, а не другая.

Яшчэ далей у пошуках нестандартнасці пайшоў




Г. Марчук пры стварэнні п'есы "Ясь, Яніна і каралева Аварыя", галоўнай выхаваўчай мэтай якой з'яўляецца фарміраванне культуры паводзін на дарогах у дзяцей — тых, хто ўліваецца ў актыўнае грамадскае жыццё. І вельмі цудоўна, што навучанне можна ажыццяўляць у такой нязмушанай форме. Каларытную карціну каралеўства Аварыі запаўняюць, акрамя каралевы, Трагічная Сітуацыя (прынцэса), Няшчасны Выпадак (саветнік каралевы) і інш. У гэтай краіне для звычайнага чалавека ўсё падаецца нелагічным, перавернутым. Напрыклад, у якасці лекаў прымяняецца ўдар дубінай па галаве (так лечыцца Аварыя), ад сірэны "хуткай дапамогі" яе жыхарам "нават жыць ахвота", жахлівая статыстыка ДТЗ — "добры ўраджай" для Трагічнай Сітуацыі. Але ёсць яшчэ і Краіна дарожных знакаў, са сваімі жыхарамі: Светлафорам і Шлагбаумам. Паміж гэтымі краінамі, духоўныя асновы якіх першапачаткова несумяшчальныя, ідзе барацьба за панаванне іх сістэмаў каштоўнасцей. Аб'ектамі гэтай барацьбы і адначасова рашаючымі фактарамі перамогі ў ёй з'яўляюцца малодшыя школьнікі — Яніна, якая трапіла ў каралеўства Аварыі, і яе непаслухмяны брат, які, каб выратаваць сястру, павінен вывучыць правілы паводзін на дарогах. Складанасць сітуацыі пазітыўна ўплывае на Яся. Ён не толькі дапамагае сястры, але і прадухіляе "тэракт" Аварыі і яе хаўруснікаў супраць першакласнікаў. Такім чынам, адбываецца перавыхаванне Яся, які ўжо сам становіцца прыкладам для пераймання.

Пра сяброўскую вернасць апавядае казка Г. Марчука "Надзея сабакі Тэафіла". Адштурхоўваючыся ад класічнага клішэ "сабака — сябар чалавека", пісьменнік даказвае абавязковасць узаемнага сяброўскага пачуцця — з боку чалавека, інакш нівеліраваліся б сапраўдныя каштоўнасці. Тэафіл, нягледзячы на перыпетыі свайго лёсу, застаўся верным свайму выратавальніку і аддзячыў не менш важка. У рэшце рэшт справядлівасць устаноўлена і партфель, за якім ганяліся нядобразычліўцы, дастаецца тым, каму па праве належаў. Што ж за каштоўнасці захоўваліся ў партфелі? Гэтым прыёмам пісьменнік звяртае ўвагу малых на казку як на невычэрпную крыніцу народнай мудрасці і дабрыні.

П'еса-казка Г. Марчука "Чужое багацце" (1997), адрасаваная, як можна меркаваць па змесце, вучням сярэдніх і старэйшых класаў, пераносіць традыцыйную для казак барацьбу дабра і зла ў наш час з яго атрыбутамі (кока-колай, рэкламай, радыётэлефонам, адпаведнай "модный" лексікай), надзяляючы кожную сілу сваёй "зброяй": зло — наркотыкамі, гарэлкай, сапраўднай зброяй; дабро ж супрацьпастаўляе гэтаму ўсяму толькі вернасць, сумленне, каханне, любоў, сціпласць. Пан Майданскі з хаўруснікамі хочуць нажыцца з дапамогай вырошчвання зброі на ўрадлівай глебе сіраты Ганны. Але Ганна вырошчвае тое ж, што і яе продкі. У Юрыю, які вяртаецца з вайсковай службы, бачыцца паратунак, але і ён трапляе ў хітра расстаўленыя пасткі. Толькі сумленне выводзіць яго на правільны шлях. Ён раскрыў намеры бандытаў і вызваліў Ганну, якую асляпілі і хацелі выдаць замуж за Кадука. Немалаважную ролю адыгрывае ў п'есе вобраз святой і чыстай птушкі — бусла.

Падобнай да адной з папярэдніх п'ес Г. Марчука "Надзея сабакі Тэафіла" з'яўляецца "Зімовая песня Жаўрука" (1995). Супрацьстаянне птушак — гультаяватых і хцівых Крумкача, Зязюлі, Папугая, з аднаго боку, і працавітых, добразычлівых, даверлівых Шпака, Жаўрука, Дзятла — з другога заканчваецца перамогай апошніх: яны ў цяжкую хвіліну з'ядноўваліся шчыльней у адрозненне ад эгаістычных птушак, няздольных паступіцца самаахвярна, на карысць сябра. Першага ж сур'ёзнага выпрабавання гэтыя птушкі не вытрымалі. Яны не былі звязаны сяброўствам, а толькі прагматычнымі інтарэсамі. А каб папярэдзіць чые-небудзь закіды, падобныя да крумкачовых, трэба прыслухацца да Юраські: "Калі будзем дапамагаць адзін аднаму, клапаціцца, памятаць пра меншага і слабейшага, тады ніякія лайдакі і абжоры не змогуць нажывацца з нашага таленту, з нашае працы..."

У казачны свет п'есы Г. Марчука "Начныя прыгоды Паўліка" (2003) урываюцца не самыя лепшыя рэаліі сучаснай цывілізацыі. Нават назвы ўвасаблення сілаў зла як аднаго з бакоў канфлікту адпаведныя. Місія па выпраўленні сітуацыі ўскладаецца на падрастаючае пакаленне. Такім яго прадстаўніком з'яўляецца Паўлік. Ён вядзе барацьбу са Злым Духам Асфальту. Аднак перамогу абумоўлівае не толькі маладосць, але і повязь з традыцыямі, духоўная непарыўнасць паміж пакаленнямі: да поспеху спрычыняецца і жыццесвярджальная музыка скрыпкі, і своечасовыя парады бабулі.

Ці не самую важкую філасофскую праблему ўзнімае Г. Марчук у сваёй меладраме "Каханне маё нешчаслівае" (1998): праблему сэнсу чалавечага існавання ў варунках эпохі сацыяльных і каштоўнасных перамен. Найцяжэй даводзіцца моладзі: яна стаіць на ростанях жыцця. Знаходзяцца і "настаўнікі", якія спрабуюць прывіць маладым людзям логіку жывёльных паводзінаў у свеце, у якім дзейнічаюць "законы джунглей". Такім з'яўляецца Арнольд — побытавы філосаф-дэкадэнт. Для гэтага персанажа агульначалавечыя каштоўнасці аказваюцца шкодным атавізмам. У Арнольда не выяўляецца нават прыкмет сумлення, што азначае дэградацыю чалавека да прымітыўных жывёльных інстынктаў. На другім полюсе знаходзіцца старшакласнік Пётр, які ў сілу жыццёвых цяжкасцей спярша нібыта ступае на шлях Арнольда, аднак пакуты сумлення лакмусам высвечваюць сапраўдныя арыенціры ягонага існавання. Гегелеўская тэза, што "сапраўдны характар дзейнічае па асабістай ініцыятыве і не дапускае, каб іншы думаў і вырашаў за яго", цалкам стасуецца ў дадзеным выпадку з постаццю Пятра. Г. Марчуку трэба аддаць належнае: нягледзячы на агульны халодны фон драматургічнай карціны, аўтар абазначае аптымістычны кірунак развіцця як героя, так і яго акружэння.

З усяго шэрага тут разгледжаных п'ес толькі апошняя створана па канонах рэалізму. Іншыя — казкі. Такі "перакос" склаўся ва ўсёй беларускай літаратуры. Дзіцячая непасрэднасць заўсёды будзе патрабаваць эстэтычна і этычна выверанных мастацкіх твораў. Казачны свет з яго ў пэўным сэнсе архетыпічнымі жыхарамі знаходзіцца на актыўных ролях у драматургічных кнігах для дзяцей. П'есы Г. Марчука — лепшае пацвярджэнне таму.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

## Віншуем

З 70-годдзем Івана Канстанцінавіча Стадольніка, беларускага паэта, празаіка.

З 60-годдзем Святлану Якаўлеўну Ганчарову-Грабоўскую, беларускага літаратуразнаўцу.

З 60-годдзем Хведара Хведаравіча Гурыновіча, беларускага паэта.

З 60-годдзем Івана Арсеньевіча Карэнду, беларускага грамадскага дзеяча, паэта, празаіка.

## Юбілейны каляндар

200 гадоў Пляцыду Янкоўскаму, беларускаму пісьменніку.

155 гадоў Еўдакіму Раманавічу Раманаву, беларускаму этнографу, фалькларысту, археолагу, краязнаўцу, педагогу, літаратару.

150 гадоў Кандрату Тодаравічу Лейку, беларускаму празаіку, паэту, драматургу.

130 гадоў Рахілі Вульфаўне Брохес, празаіку, драматургу. Пісала на ідыш і беларускай мове.

130 гадоў Сяргею Пятровічу Сахараву, беларускаму фалькларысту, этнографу, публіцысту, педагогу.

120 гадоў Мікалаю Васільевічу Шатэрніку, беларускаму мовазнаўцу і педагогу.

115 гадоў Вандзе Антонаўне Лявіцкай-Лёсік, беларускай паэтэсе, празаіку.

110 гадоў Сымону Баранавых (сапр. Сымон Якаўлевіч Баранаў), беларускаму празаіку.

105 гадоў Віктару Іванавічу Казлоўскаму, беларускаму паэту.

105 гадоў Янку (Івану Людвігавічу) Туміловічу, беларускаму паэту.

105 гадоў Георгію Сяргеевічу Бярозку, беларускаму празаіку, крытыку, літаратуразнаўцу, кінакрытыку.

100 гадоў Юльяну Іосіфавічу Сергіевічу, беларускаму паэту, мастаку.

100 гадоў Уладзіміру Іванавічу Агіевічу, беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу.

90 гадоў Яўгену Ігнатавічу Крамко, беларускаму празаіку, публіцысту.

85 гадоў Навуму Зіноўевічу Кісліку, беларускаму паэту, перакладчыку.

85 гадоў Алесю (Аляксандру Пятровічу) Траяноўскаму, беларускаму перакладчыку, крытыку, публіцысту.

80 гадоў Віктару Браніслававічу Дайлідзе, беларускаму празаіку.

80 гадоў Паўлу Іванавічу Ткачову, беларускаму празаіку, літаратуразнаўцу, крытыку, заслужанаму работніку вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь.

# Паляванне на апошняга літаратара

Аднойчы Канфуцый запытаўся ў свайго вучня: "Скажы, ты лічыш мяне вельмі адукаваным?" Вучань здзівіўся: "А што, няўжо гэта не так?". "Не, — адказаў Канфуцый, — я толькі звязваю ўсё ў адно". Магчыма, і ў аснове літаратурнай крытыкі галоўным метадам павінен быць не аналіз асобнай мёртвай тканкі твора, няхай нават і заснаваны на класічнай тэорыі, а ажыўляльны сінтэз, пры якім спачатку ўсё разглядаецца агулам, а пасля вымалёўваецца адзіная карціна? Зрэшты, часопісны агляд — гэта і ёсць мноства аб'яднаных суб'ектыўных уражанняў. Таму ў сучасных умовах крытык павінен быць падобны на героя яшчэ аднаго крылатага канфуцыянскага выказвання: крытык мае вялікія шанцы пабачыць сябе ў ролі паляўнічага. Нягледзячы на брутальнасць параўнання, крытык сёння сапраўды — паляўнічы, а літаратура — яго здабыча, прычым само паляванне найчасцей адбываецца не ў райскіх далінах, а ў каменных джунглях мегаполісаў.



Рэдкалегія падрыхтавала на гэты раз шыкоўны падарунак чытачу. "Гомельскі" нумар абавязаны сваім з'яўленнем на свет традыцыі свята пісьменства. Сёлета ўрачыстасці адбываліся ў Хойніках. Гэтыя мясціны далі нам шмат каго з вядомых беларускіх пісьменнікаў. Таму, сыходзячы з пастаўленых мэт і задач, нумар атрымаўся ў пэўнай ступені інфармацыйна-азнаямляльным, нават мазаічным. Ужо самая першая публікацыя звяртае на сябе ўвагу. Пад агульнай назвай "Гомельскі сшытак" аб'яднаны вершы адзінаццаці мясцовых паэтаў, пачынаючы ад такіх ветэранаў пяра, як Мікола Старчанка і заканчваючы літаратарамі-маладзёнамі. Як сцвярджэнне думкі, што галоўным чыннікам і дзейнай асобай на святах пісьменства павінны быць беларускае слова і айчыннае пісьменства, гучаць паэтычныя радкі здольнага маладога паэта Алеся Бараноўскага:

Пустазеллем парасла зямля.
Пішуць зноў
гісторыю нанова…
Самая магутная мая,
Шчырая і ветлівая мова!

Даруем аўтару панчанкаўскія матывы ў творчасці, адзначыўшы пры гэтым як дамінантную рысу гранічную шчырасць радка.

Міхась Башлакоў у сваёй падборцы ў асноўным пазіцыяніруе сябе і сваю творчасць у лірыка-філасофскім ключы. Аднак у некаторых вершах ён не абмяжоўваецца тэмамі дзяцінства, Радзімы, але і спрабуе сябе ў іншых сферах, сведчаннем чаму наступныя радкі:

Як пад сукенкай
грудзі твае млеюць
І як трымцяць
пад вопытнай рукой…
Чароўная…
Гляджу я — і нямею
Ад прыгажосці кідкае такой…

Хто тут мацнейшы — Башлакоў-лірык і прыродаапісальнік, альбо Башлакоў-аўтар эратычных вершаў — вырашаць чытачу.

Вянок санетаў Ізяслава Катлярова "Любата" друкуецца ў перакладзе ягонай нязменнай жыццёвай і творчай паплечніцы Соф'і Шах. Лейтматывам усяго вершаванага цыкла можна лічыць наступныя радкі, у якіх сканцэнтравана і аўтарскае крэда, і нястомнае захапленне прыгажосцю і веліччу быцця:

…і скрозь жыццё,
скрозь будучую смерць
зноў моўчкі ўсклікну:
"Любата якая!"

Проза прадстаўлена ў нумары найперш творчай спадчынай слыннага ўраджэнца Гомельшчыны Івана Шамякіна. Друкуецца яго "Грузінская аповесць". Нягледзячы на тое, што гэта ўсяго толькі фрагменты з аповесці "Караван", што ўжо друкавалася ў "Полымі" у папярэдніх нумарах, публікацыя ўспрымаецца як абсалютна самастойны твор. Ашчаджаючы цікавасць прыхільнікаў творчасці пісьменніка, не будзем пераказваць змест твора, адзначым толькі, што і тут праяўляецца асноўная рыса творчасці вядомага празаіка — з дапамогай апісальна-побытавых сцэн узнімацца да агульначалавечых праблем.

"Малы" жанр у нумары прадстаўлены творчасцю Міхася Даніленкі, Васіля Ткачова, Тамары Купрэвіч, Валянціны Кадзетавай. Першыя два аўтары прытрымліваюцца сваёй нязменнай апісальна-псіхалагічнай манеры, прычым Васіль Ткачоў у першую чаргу выступае як майстар сюжэта. Апавяданні ж Тамары Купрэвіч і Валянціны Кадзетавай пры ўсёй сваёй стылёвай непадобнасці яднаюцца агульнай пачуццёва-эмацыйнай асновай, характэрнай для жаночай прозы наогул. Тое самае, зрэшты, можна сказаць і пра падборку эсэ Наталлі Касцючэнкі, змешчаную ў гэтым жа нумары.

Крытыка-публіцыстычная частка часопіса складаецца з імён, прадстаўляць якія няма патрэбы. Васіль Жураўлёў у сваім артыкуле даследуе мастацкую і латаратуразнаўчую творчую спадчыну Івана Навуменкі. Эстэтычную прастору творчасці Івана Мележа на прыкладзе знакамітай "Палескай хронікі" аналізуе Серафім Андраюк, а Сцяпан Лаўшук падае сваё бачанне асаблівасцей творчай манеры Андрэя Макаёнка.

Своеасаблівая гутарка-роздум, гутарка-ўспамін Зіновія Прыгодзіча і Янкі Сіпакова пад загалоўкам "Шчодры талент" прысвечаны асобе пісьменніка Барыса Сачанкі. Пад рубрыкай "Помнае" Тамара Кручэнка дзеліцца сваімі думкамі пра паэзію Анатоля Грачанікава. Іван Штэйнер у артыкуле "Песня палескага краю" робіць невялікі экскурс у літаратурнае мінулае Гомельшчыны.



У гэтым нумары часопіса чытача чакае заканчэнне рамана Андрэя Федарэнкі "Рэвізія". Класіка — яна тым і вылучаецца, што, сыходзячы з чытацкае прагі яе чытаць і перачытваць, час ад часу наспявае неабходнасць і яе перавыдаваць, так ці інакш зноў і зноў робячы здабыткам пэўнай чытацкай аўдыторыі.

Друкуецца ў часопісе і твор яшчэ аднаго беларускага празаіка ў перакладзе на рускую мову. Гаворка пойдзе пра Анатоля Казлова, чыя аповесць "Паразумецца з ветрам" (у рускім варыянце — "Примириться с ветром" — на мой погляд, пераклад назвы не зусім адэкватны) прымусіць салодка затрымцець нутро ў не аднаго аматара эратычнай прозы. Але на гэтым, бадай, вартасці твора і заканчваюцца. Аўтар залішне захапляецца не такой ужо і моднай сёння "інтэрнэтнай" тэматыкай у сучаснай літаратуры (варта прыгадаць толькі яшчэ зусім нядаўна папулярны раман польскага пісьменніка Януша Вішнеўскага "Адзінота ў сеціве"). На жаль, кола онлайнавых зацікаўленасцей галоўнага героя не выходзіць за межы сайтаў знаёмстваў. Нашмат цікавей было б пачытаць які-небудзь твор, прысвечаны, напрыклад, узаемадносінам карыстальнікаў папулярных сацыяльных сетак ("Livejournal", "Facebook" і інш.). Як на мой погляд, гэтая аповесць — не самы лепшы творчы здабытак аўтара "Юргона".

Аповесць жа Уладзіміра Сцяпана "Акварэльныя малюнкі. Дзед" выклікае адно станоўчыя ўражанні. Майстар дэталі, Сцяпан і тут не здраджвае сабе — замалёўкі-ўспаміны пра роднага дзеда Уладзіміра атрымаліся рэчыўныя, візуальна дакладныя, і ў той жа час надзвычай вобразныя.

Цікавымі падаліся і "Странные сказки" нёманскай дэбютанткі Дар'і Максімавай. Алегарычныя па сваёй сутнасці, яны пры ўсім пры тым не пазбаўленыя сюррэалістычнага налёту, што ў сукупнасці дазваляе сцвярджаць пра ўжо сфармаваны індывідуальны творчы стыль маладой пісьменніцы.

Паэзія ў нумары прадстаўлена паэтычнымі падборкамі Міколы Мятліцкага, Анатоля Цыркунова, Наталлі Салаўёвай, Георгія Літвіна і Уладзіміра Шуглі. Падборкі неаднародныя як па структуры, так і стылёва. Вершы Міколы Мятліцкага ў перакладзе Юрыя Сапажкова прывабліваюць элегічным, настальгічным настроем. Уся падборка працята тэмай страчанай Радзімы, вобразамі назаўсёды адышоўшых у нябыт мінулага людзей. Наогул, на прыкладзе гэтай публікацыі яскрава прасочваецца творчы "сімбіёз" двух прафесіяналаў, знаўцаў сваёй справы: паэта і перакладчыка.

Анатоль Цыркуноў у сваёй невялічкай вершаванай падборцы "О соле мио" задумваецца над вечнымі філасофскімі пытаннямі, не абмінае сваёй увагай і чарнобыльскую тэму (верш "Аисты Чернобыля").

Паэтычная нізка Наталлі Салаўёвай пад агульнай назвай "Любовь — величайший художник" вызначаецца выразным лірычным пачаткам. У спалучэнні з неблагой паэтычнай тэхнікай, імкненнем да гукапісу і рытмапісу вершы пакідаюць пасля прачытання пазітыўнае ўражанне.

Пад рубрыкай "Наследие" друкуецца вядомы артыкул Паўла Шпілеўскага "Исследование о вовкалаках". Апрацаваў тэкст і забяспечыў яго каментарамі Аляксандр Вашчанка, ён жа і патлумачыў у невялічкім уступным слове каштоўнасць публікацыі: "На нее (публікацыю. — Я.Л.) ссылаются почти все исследователи белорусского фольклора и в то же время она ни разу (!) не переиздавалась".

У раздзеле "Сусветная літаратура" ў "Нёмане" змешчаны нарыс вядомага рускага пісьменніка і журналіста, аўтара шматлікіх біяграфічных твораў Барыса Носіка "Гений из Смиловичей" — пра ураджэнца Беларусі, вялікага французскага мастака Хаіма Суціна, а таксама падборка вершаў славутага амерыканскага паэта Огдэна Нэша ў перакладзе Юрыя Маслава.

А пад рубрыкай "Дакументы. Запіскі. Успаміны" друкуецца другая частка артыкула Таццяны Шамякінай, прысвечанага бацьку. Калі ў першай частцы гаворка ішла пра месца вёскі ў жыцці пісьменніка, то на гэта раз нас чакаюць развагі пра той уплыў, які аказаў на Івана Шамякіна горад.

Літаратуразнаўчы блок прадстаўляе артыкул Зінаіды Драздовай — "Время толстых романов" — пра трылогію Уладзіміра Гніламёдава "Уліс з Прускі", "Расія" і "Вяртанне", а таксама даследаванне Івана Штэйнера "Криница, из которой пил святой", прысвечанае асобе знакавага беларускага творцы Алеся Разанава. Апошні матэрыял звяртае на сябе ўвагу грунтоўным аналізам усёй творчасці паэта, аднак даследчык не абмяжоўвае сябе акадэмічнымі рамкамі, а смела дае нырца ўглыб гісторыка-літаратурных алюзій, гіпотэз і нечаканых высноў.



Дэбютантка Ганна Радзько ў сваёй паэтычнай нізцы "Ліст і пялёстак" не баіцца эксперыментаваць з такой формай, як акраверш, а таксама з рытмам і рыфмамі. Хочацца толькі нагадаць маладой аўтарцы, што сцяжына пошуку ў паэзіі почасту няроўная і ад таго небяспечная, вельмі лёгка на ёй паслізнуцца і патрапіць у нечаканую пастку, сведчаннем чаму наступныя радкі з нізкі:

Твае бяздонныя
шэра-блакітныя вочы,
Каханнем ззяюць яны ўночы.
Веліч і разважлівасць
яны захоўваюць —
Мяне тым зачароўваюць.

Суб'ектывізм паэтычнага светаўспрымання тут відавочна пераважае над здаровым сэнсам і логікай, таму варта было б задумацца над тым, ці выносіць падобныя пачуцці на чытацкі суд.

Паэтка Юлія Новік не здраджвае сваёй ранейшай творчай манеры, запачаткаванай яшчэ ў ранейшым дэбютным зборніку "Сонца над тэрыконамі". У аснове сваёй вершы з новай нізкі, змешчанай у гэтым нумары "Маладосці" — лірычна-філасофскія і пакідаюць неблагое ўражанне, хаця ў некаторых выпадках нагрувашчванне вобразаў выдае празмерным і досыць штучным:

Рэкі твае завязаныя
дзесьці вузламі.
Прыгаршчы сноў
акладу на халодныя скроні…

Амаль прыгожа, але, пагадзіцеся, вельмі ўжо няўцямна гучаць гэтыя радкі…

Наступныя вершаваныя падборкі належаць паэтам пазнейшых пакаленняў. Мар'ян Дукса, Ніна Маеўская, Мікола Шабовіч — паэты вядомыя, кожны з іх дасягнуў пэўнага ўзроўню ў вершаскладанні. З аднаго боку, гэта плюс, з іншага — мінус, бо ўслед за гэтым непазбежна знікае прасцяг для самаразвіцця і творчых адкрыццяў. З усіх трох паэтаў, бадай, адзін Мар'ян Дукса найбольш парадаксальны і непрадказальны ў сваіх вершах, дзякуючы чаму яго і цікавей чытаць. Тэматыка ж і агульная настраёвасць вершаў як Ніны Маеўскай, так і Міколы Шабовіча статычная ўжо на працягу многіх гадоў. І сапраўды — пасля знаёмства з іх падборкамі не спыняешся на асобных радках ці думках.

Адна з найбольш яскравых публікацый нумара — гэта "Крутагорскія казкі" Адама Глобуса. Можна па-рознаму ставіцца да гэтага аўтара як да асобы, але не прызнаць месца яго творчасці ў сучасным літаратурным працэсе нельга. Шмат якія з прадстаўленых у публікацыі "жахоткаў" аўтар ужо змяшчаў у сваім блогу; сабраныя разам, яны падораць аматарам айчыннага "інтэлектуальнага хорару" гадзінку-другую чытацкай асалоды.

Маладая аўтарка-празаік Алёна Беланожка, ужо знаёмая чытачу па ранейшых публікацыях, выступае з двума аповедамі: "Яблыкі" і "Нечаробнае апавяданне". Першы твор больш запамінальны, відаць, дзякуючы нечаканай развязцы, але ў цэлым публікацыя сведчыць пра яшчэ нескарыстаны напоўніцу творчы патэнцыял аўтаркі.

Апавяданні празаіка Івана Капыловіча вытрыманы ў традыцыйнай манеры: за знешнімі сюжэтнымі паваротамі, апісаннямі трагічнасці чалавечых лёсаў выразна прасочваецца неабыкавасць аўтара да жыццёвых праяў, характары сапраўды нібыта ўзятыя з жыцця. Але ж даўно вядома, што для пісьменніка мала знайсці прататып для свайго героя, трэба яшчэ "ўдыхнуць" у прыдуманы вобраз жыццё, прымусіць яго натуральна рухацца ў створанай ім мастацкай прасторы — гэта найпершая ўмова таленавітага твора. Наколькі гэта атрымалася ў Івана Капыловіча — меркаваць чытачу.

Творчае аблічча выбітнага паэта Леаніда Галубовіча знайшло сваё адлюстраванне ў юбілейным артыкуле Яўгена Гарадніцкага "Паэзія да вершаў і пасля…".

Янка ЛАЙКОЎ

№ 38 24 верасня 2010 г. ЛіМ



Міхась ПАЗНЯКОЎ

## Журавы над лугам кружаць…

### Родны край

Пакуль яшчэ лугі, палі тут не пакошаны,
Спяшаюся сюды, нібыта ў рай,
У мой бярозава-рамонкава-валошкавы,
У непаўторны, любы, родны край.

Усё вакол тут вока радуе раскошаю,
Заўжды маёй душы прывольна тут.
Жыве бярозава-рамонкава-валошкавы
Адзіны мой, бацькоўскі, мілы кут.

Забуду я праблемы тут
усе сталічныя,
Да казкі дзіўнай трапіўшы ў палон.
Падорыць лес
усе паляны мне сунічныя,
І ў сініх хвалях закалыша лён.

Не кліч мяне, сталіца,
плошчамі шырокімі,
У вір свой мітуслівы не чакай,
Я свой бярозава-рамонкава-валошкавы
Больш не пакіну ціхі, светлы край.

* * *

Адбіваецца неба ў люстэрку рачным.
Змрок ахутаў ліхтарыка промень.
Ціха вершы чытаю я зданям начным
І драчам, што скрычаліся ў стоме.

Зашумела трава пад густым вецярком.
Мне дадому пара. Не акліквайце, птахі.
Толькі зорку ў рацэ зачарпну карцялком
І ў рукзак свой збяру непаўторныя пахі.

### Клёну дзяцінства

Вецер падзьмуў за садамі,
Голаў не трэба схіляць.
Можна на небе, бы ў храме,
Вечныя пісьмы чытаць.

Рукі апусціш стамлёна.
Згасне вятрыняў святло.
За паваротам павольна
Знікне з гасцямі аўто.

Слых свой навёўшы на зоры,
Зноў у эфіры начным
Будзеш зямлю ты бадзёрыць
Моцным карэннем сваім.

Летам хвалюючы свежым,
Што б тут і як не было,
Будзеш дарыць ты прыезджым
Мілай радзімы цяпло.

* * *

Зрываюся ў вір,
І — да сустрэчы,
Як толькі на міг
Успомню аб нечым.

А там жа не мёд —
Сардэчныя мукі.
І верад турбот,
І жахі разлукі.

Атрута пакут,
І сонца любові.
Збавенне ад пут,
Пагрозлівасць новых.

Залева нягод
І пекліша здрады.
Чужацкасці лёд
І зманлівасць звады.

У бездані той,
Амаль што бяздоннай,
У лаве густой
Я безабаронны.

Як цяжка душы,
Псуецца характар,
Бо не заглушыць
Мне гэткі рэактар.

* * *

Журавы над лугам кружаць,
Ранак грае і гудзе.
І чаруюць, хмеляць ружы
Перад хатай, на градзе.

Пастаю ў духмяным садзе
І прайдуся ля жытоў,
Промні цёплыя ў паглядзе
У маім зазззяюць зноў.

Потым свежасцю густою
Лес абдасць, нібы з каўша.
Запяшчоціцца красою
Набалелая душа.

* * *

Сэрца асалодна апячэ
Музыка налівістага жыта.
Сонца золатам за бор сцячэ,
Пад густым схаваецца блакітам.

Супакоіць свежасцю рака,
Незабудак сіняю пяшчотай.
І душа на крылах матылька
Затрымціць, акрыліцца мілотай.

Шапаткі запеніцца туман,
Загудуць на лузе кветак бомы.
Лягу на шаўковісты дыван
І прачнуся раніцай без стомы.

* * *

Архіўныя папкі
Гартаю, чытаю...
І раптам лісточак:
"Кахаю, чакаю".

Навокал запахла
І мёдам, і мятай,
І месяц ліловы
Усплыў па-над хатай.

Зіхнула маланка,
І шчасце працяла...
Сціх вечар... Ноч... Ранак,
А нам усё мала...

Хоць гэта запіска
З архіва — не мне,
Удзячны — сваёй
Пакланіўся вясне.



Наталля БУРДЗЕЙКА

* * *

Адшумела
Наша ціхае шчасце.
Раптам
Каштоўнымі сталі
Нядаўнія фотаздымкі,
Дзе твой
Назаўжды ласкавы твар.
Сабяру іх,
Як жоўтае лісце,
Поўнае смагі жыцця.
І мне застаецца
Толькі вернасць.
Толькі вернасць і вера.
Нездарма ж
Гэта жоўтае лісце
Брала колер
У сонца.

* * *

Разабралі
Старую хату.
Апусцела
Месца дзіцячых мрояў.
Груша дзічка прывычна
Уздымае крыло.
А пад ім няма
Нешалёваных сцен
І пакатага даху.
І балюча
Антонаўкам падаць
На падмурак.
А на верхавіне гукае
Сівая
Птушка-гаюн.
Тая самая —
Вока адводзіць,
Але ведаю,
Што пазнала,
Што мне яна
Сёння спявала
Суцяшальную песню.
І струменіць
У цемры рака.

* * *

Антонаўкі —
Ахоўнікі
Мінулага.

* * *

У ціхі момант прабуджэння
Так ясна бачу
Вобраз твой.
Шчымліва-радасна
Душа памкнецца
Цябе абняць.
Без стогну,
Горкага рыдання
Мне па-дзіцячы
Перад Госпадам стаяць.
Пачаў ужо даваць плады
Свяшчэнны сад,
Пасаджаны табой.
Як некалі, цераз гады
Я адчуваю
Клопат твой.
Трывогу,
Тайны боль
І адзіноту тваю, мама.
Ізноў перад іконай стану,
Дзе шчодры мой Гасподзь
У абдымках маці.



Сяргей ПАТАРАНСКІ

### Крыло душы

Крыло душы — твой дух цудоўных дзён,
калі я паміраў ад неспакою,
калі цябе святоўнай мроіў мрояй
і выпаляў з душы тлумлення дзёрн.

Ты мой анёл… Крыло душы тваёй
душу маю з пустых трывогаў цемры
мо вынесла туды, дзе супакой
ад Бога, і любоў не знае меры!

### Балада

Бяруце і Кейстуту

Бярута мая дарагая,
твой сэрца агонь апаліў.
Каго б так кахаў — не знаю,
дух полымя праўду адкрыў,

што, пэўна, не ў вокнах ёсць шчасце,
якое спазнаці людзям,
а там, дзе б душой прыпасці
да вогнішчаў зорных, як храм.

Бярута мая дарагая,
ты зорка мая паміж мрой!
Адчай апраметны сканае,
а сэрца спасцігне спакой.

Хай вогнішчаў ласка шалее,
і капішча славіць багоў!
Яднанне падорыць надзею,
а неба — ад Бога любоў.

* * *

Між восеньскае паваокі
плыве твой нязмушаны цень,
нібы вобраз сноў глыбокіх
анёла, што з неба зляцеў

і цешыў душу ў ціхі вечар
размовай і ласкай сваёй,
між свечак узнёслага веча,
дзе жар панаваў і спакой.

Пасля сонца ў веснях аблоках,
пасля спёкі летняй пары
між восеньскае паваокі
зноў цень твой, як ветру парыў,

які мне ўскунежвае мары,
сярод туманных вечароў,
дзе дрэвы ў шалёных пажарах,
шалее здрамалая кроў.

Заходзь жа ў мой дом адзінокі,
князёўна дабра і красы, —
між восенькае паваокі
мы знойдзем жаданыя сны.

* * *

Ты, як майскае сонца,
мне душу абагрэла.
І нястрымная смеласць,
і пяшчоты мілоснасць,
і адхлання трымценне

У табе ўвасаблёны
дасканаласці красам.
І, здаецца, празорна
дух паўстаў твой над часам,

у якім, пэўна, й сэнсу
не знайсці б душам грэшным,
каб душу не кунежыў
і не вызнала сэрца
пал любові бязмежнай.

### Ваенная любоў

Васілю Быкаву

Пакахай мяне, салдацік.
Нам любоў з табой не здрадзіць.
Мы жывыя — на вайне,
заўтра будзем у труне
на бяздонным смерці дне.
І дурных акопаў дно —
не ў Сусвет, а ў смерць акно.

Пакахай мяне, як мог бы
любі́ую кахаць. Хай бомбы
абмінуць хаця б на час
зараз закаханых нас.
Хай міне нас смерці прас.
І на злосць усёй вайне
будзем зараз не ў труне.

Пакахай мяне аддана.
Хай хвілінай апантанай
стане той карокі міг,
што з бяспамяцтва узнік.
Я — нявеста, ты — жаніх…
Імі стаць на ноч адну
можам мы за ўсю вайну.

Пакахай мяне, салдацік.
Нам жыццё халтуры ладзіць,
але міг дае Любоў…
Хай здурэе наша кроў!
І сярод вайны акоў
пераможам смерць наноў.
Новым днём паўстане час,
каб сустрэць жывымі нас —
пераможцамі маны,
што мы толькі для вайны.

Дык давай жа будзем разам,
бо не нам лічыць паразы
і аб страхах шкадаваць…

Людзі створаны кахаць!



Фота Кастуся Дробава

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

КНІЖНЫ СВЕТ

24 верасня 2010 г.

Выпуск 15

# Узрост чытача абавязвае…

Выдавецтва "Пачатковая школа" створана ў 2001 годзе на аснове рэдакцыі аднайменнага навукова-метадычнага часопіса для забеспячэння настаўнікаў пачатковых класаў, метадыстаў, студэнтаў педагагічных навучальных устаноў, навуковых работнікаў вучэбна-метадычнай літаратурай, якая адпавядае патрэбам агульнаадукацыйнай школы Беларусі. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь яго дырэктар, галоўны рэдактар Наталля Ваніна не так даўно была адзначана медалём "За працоўныя заслугі". Пра асаблівасці выдання сучасных падручнікаў, навукова-метадычнай літаратуры, а таксама часопісаў для дзяцей і падлеткаў — наша гутарка з Наталляй Генадзьеўнай.

— Чаму так атрымалася, што з рэдакцыі аднаго часопіса для настаўнікаў утварылася цэлае выдавецтва?

— Думаю, гэта невыпадкова. Пачынаючы з 1991 года, калі быў створаны часопіс "Пачатковая школа", адчувалася вострая неабходнасць у спецыяльнай навукова-метадычнай літаратуры для настаўнікаў. Цяпер мы выпускаем вялікую колькасць такой літаратуры: рабочыя сшыткі па розных прадметах, тэматычнае планаванне, метадычныя дапаможнікі, распрацоўкі ўрокаў і бачым, што гэтыя кнігі вельмі запатрабаваны настаўнікамі.

— З пачатку 1990-х, калі ўзнік часопіс "Пачатковая школа", напэўна, пачалося станаўленне і развіццё нацыянальнага беларускага падручніка?

— Сапраўды, у 1990-х мы пачалі ствараць нацыянальную навукова-метадычную базу ў сістэме адукацыі. Вядома, што ў савецкія часы большая частка падручнікаў, акрамя нацыянальнага кампаненту, друкавалася ў Маскве. У 1991 годзе, калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, аказалася, што нам вельмі патрэбны свае падручнікі, метадычкі, рабочыя сшыткі для вучняў і г.д. Часопіс "Пачатковая школа" ў першы ж месяц існавання сабраў па падпісцы накладу 16 тысяч асобнікаў, а праз некалькі месяцаў яго тыраж склаў 32-33 тысячы экземпляраў. Часу не хапала і не дзіўна, што першапачаткова некаторыя падручнікі аказаліся не зусім яснымі. Напрыклад, памятаю, што падручнік для 4 класа "Мая Радзіма — Беларусь" пісаўся ўвогуле два ці тры месяцы. Яго надрукавалі адразу на старонках нашага часопіса, а потым ужо выдалі асобнай кнігай.

Цяпер мы маем падручнікі зусім іншага кшталту. Міністэрства адукацыі разам з Нацыянальным інстытутам адукацыі арганізавалі ўвесь працэс падрыхтоўкі, выдання і апрабацыі вучэбна-метадычных комплексаў. Распрацаваны навуковыя патрабаванні і да зместу, і да формы падручнікаў. Сёння ў нашай краіне над стварэннем падручнікаў прафесійна працуюць сотні навукоўцаў і педагагаў-практыкаў.

— Але ж акрамя вучэбнай літаратуры "Пачатковая школа" займаецца яшчэ і выданнем розных часопісаў. Якія гэта часопісы? На якія ўзроставыя групы скіраваны?

> Мы не можам прадаваць нашы выданні ў гіпер- і супермаркетах, бо гэта расійскія гандлёвыя сеткі, і яны патрабуюць ад нас вялікіх грошай за магчымасць прадстаўляць прадукцыю паліцах крам. Мы проста не вытрымаем такой эканомікі.

— Гэта ў першую чаргу часопіс для настаўнікаў "Пачатковая школа". Наклад крыху зменшыўся ў параўнанні з пачаткам нашай дзейнасці, паколькі зараз шмат іншай навукова-метадычнай перыёдыкі. Пазней мы сталі выпускаць серыю дзіцячых часопісаў. Пачалі з "Рюкзачка". Сёння ён ужо мае сваю сталую аўдыторыю. "Рюкзачок" вельмі спадабаўся дзецям, ды і на яго старонках не змяшчалася ўсё, што хацелася б надрукаваць. Таму сталі выпускаць часопіс "Рюкзачишка" для тых, каму 5-6 год. А тыя дзеці, якім споўнілася па 12-13 гадоў і болей, сталі падпісвацца на часопіс для падлеткаў "Рюкзак". Потым паступова з'явіліся "Рюкзачок: Весёлый зоопарк" — для дзяцей, якія любяць жывёл і прыроду; "Рюкзачок: Мир путешествий", з якім мы падарожнічаем у розныя краіны, так, з яго дапамогай забяспечваем інфармацыйную падтрымку знешняй палітыкі нашай дзяржавы, стараемся расказаць дзецям пра тыя краіны, з якімі Беларусь мае стасункі рознага ўзроўню. Не так даўно з'явіўся "Рюкзачок: Мир компьютеров", часопіс вельмі актуальны.



— Нейкія новыя тэндэнцыі з'яўляюцца ў выданні часопісаў для дзяцей?

— Развіваецца такі накірунак як электронны дадатак да падручнікаў і часопісаў. Мы зараз актыўна над гэтым працуем. Так, рэгулярна выходзяць электронныя дадаткі да "Рюкзачка", у якім змяшчаем фанаграмы песень беларускіх кампазітараў, казкі, якія чытаюць самі аўтары. Акрамя гэтага, на дысках ёсць і ўрокі англійскай мовы, і класічная музыка. У цэлым, гэта вельмі напоўнены, багаты дадатак, і многія чытачы яго з нецярплівасцю чакаюць.

— Сёння ў суседняй Расіі выдаецца шмат часопісаў для дзяцей і падлеткаў, якія займаюць і частку беларускага рынку. Вам з імі складана канкурыраваць?

— Нашы часопісы добра разыходзяцца, але калі б не іх высокі сабекошт, думаецца, рэалізацыя была б яшчэ большай. Сёння ў Расіі на выдавецкую прадукцыю падатак не дадатковы кошт складае толькі 10 працэнтаў, у нас — 20. Паперу мы купляем зноў жа ў Расіі, а тыражы ў нас меншыя. Таму нам канкурыраваць з расійскімі часопісамі вельмі складана.

Але ў той жа час лічым, што павінны нейкім чынам вытрымаць гэтую канкурэнцыю. Змест нашых часопісаў цікавы, нацыянальны, нават у Расіі некаторыя падпісчыкі выпісваюць нашы выданні, асабліва часопіс для падлеткаў "Рюкзак". У той жа час мы не можам прадаваць нашы выданні ў гіпер- і супермаркетах, бо гэта расійскія гандлёвыя сеткі, і яны патрабуюць ад нас вялікіх грошай за магчымасць прадстаўляць прадукцыю на паліцах крам. Мы проста не вытрымаем такой эканомікі.

— Назва "Пачатковая школа" ўжо падштурхоўвае на роздум, што выдавецтва павінна дбаць пра інтарэсы дзяцей, клапаціца пра развіццё менавіта дзіцячай літаратуры.

— І сапраўды, мы дбаем пра якасць дзіцячых кніг, праводзім "круглыя сталы" па літаратуры і праблемах дзіцячага чытання. Стараемся праз кнігі садзейнічаць выхаванню сапраўдных грамадзян Беларусі. Так, распачынаем новую серыю кніг "Тарады і гістарычныя мясціны Беларусі". Першая кніга "Полацк — бацька гарадоў беларускіх" ужо пабачыла свет, далей запланаваны кнігі пра Мінск, Віцебск, іншыя вялікія гарады і гістарычныя цэнтры. У лютым гэтага года выпусцілі серыю "Новая дзіцячая кніжка". Гэта недарагія выданні, якія ў той жа час змяшчаюць добрую гісторыю, казку ці вершы. Яна існуе і зараз. У цэлым жа мы як выдавецтва Міністэрства адукацыі бачым адной са сваіх мэт садзеянне выхаванню дзяцей па прынцыпах народнай педагогікі, на тых маральных асновах, якія былі закладзены ў Біблії.

Гутарыла Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: дырэктар, галоўны рэдактар выдавецтва "Пачатковая школа" Наталля Ваніна.

## Аўтограф



Госць "Кніжнага свету" — пісьменнік, уладальнік дыплома І ступені Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор 2009 года, аўтар кнігі "Палёт над зямлёй" Аляксандр Сакалоў.

# Знайсці рамантыку

— Аляксандр Іванавіч, якія аўтары аказалі найбольш уплыў на станаўленне вашай творчай індывідуальнасці?

— Прачытана шмат. Захапіўся кнігамі я дастаткова рана, у пятым класе ўжо прачытаў раман "Спартак". Напэўна, мяне хутчэй можна назваць чалавекам, які чытае, чым тым, які піша, бо пісаць я стаў дастаткова позна. З усяго прачытанага вельмі складана штосьці вылучыць. Гэта і руская, савецкая класіка, і заходняя літаратура. Прычым, калі звяртаўся да спадчыны пэўнага аўтара, то чытаў усе яго кнігі ад пачатку і да канца, і ўсё, што пра яго напісана. Магу адзначыць, што творы Міхаіла Булгакава мяне моцна ўразілі.

— Якога літаратурнага героя можаце назваць самым рамантычным?

— Рамантыка — паняцце дастаткова складанае і неадназначнае. Кожны ў розных рэчах знаходзіць сваю рамантыку. Напэўна, у творах Джэка Лондана, нягледзячы на тое, што пісаў ён прозу дакладную, праўдзівую, суровую, прысутнічае шмат рамантыкі. Але яго рамантыка ўключала экстрэмальныя сітуацыі, тое, як чалавек сябе выяўляе ў надзвычайных абставінах. І заўсёды героі Джэка Лондана знаходзяць рамантыку нават у самых суровых умовах. Сам я да гэтага аспекта стаўлюся з вялікім пачуццём асцярожнасці і лічу, што трэба імкнуцца да рэалізму, паказваць жыццё ва ўсіх яго праяўленнях.

Аўтограф брала Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Аляксандр Сакалоў — чытачам "Кніжнага свету": "Чытайце больш твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў".

Фота аўтара
Калаж Віктара Калініна

# Цэнтр прыцягнення нашчадкаў Скарыны

Музею беларускага кнігадрукавання, які знаходзіцца ў слаўным горадзе Полацку і ўваходзіць у склад Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, сёлета спаўняецца 20 год. Адкрыты ён быў 8 верасня 1990 года падчас святкавання 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны.



Дваццаць год — для музея тэрмін немалы. За гэты час тысячы людзей пабывалі ў ім. Музей набыў і шмат верных сяброў. Такім сябрам, ці, лепей сказаць, хросным бацькам, установы супрацоўнікі лічаць Адама Мальдзіса. Менавіта ён быў ініцыятарам стварэння такога музея ў Полацку, на радзіме першага беларускага кнігадрукара (а не ў Мінску, як тады прапаноўвалі), і змог адстаяць гэтую ідэю. Адам Восіпавіч перадаў многія матэрыялы, якія дапамаглі супрацоўнікам будучага музея ў распрацоўцы навуковай канцэпцыі і ў стварэнні экспазіцыі (напрыклад, даследаванне і атлас Э. Лаўцявічуса "Бумага в Литве в XV — XVIII вв.", Вільнюс, 1967), даследаванні і кнігі са сваімі аўтографамі.

Некаторыя ж экспанаты, якімі ганарыцца музей, былі перададзены іншымі асобамі, але дзякуючы зноў-такі Адаму Восіпавічу. Так, праз яго ўдалося звязацца з Анджэем Цеханавецкім, прадстаўніком беларускага магнацкага роду, які жыве ў Лондане, а той перадаў гродзенскае выданне 1785 года — "Кнігу аб веры". Дзякуючы А. Мальдзісу на адкрыцці музея прысутнічаў Стэнлі Скарына — нашчадак Францыска Скарыны ў чатырнаццатым пакаленні, доктар медыцыны, прафесар Манрэальскага ўніверсітэта ў Канадзе.

Вялікую тэарэтычную і практычную дапамогу ў стварэнні музея аказалі вядомыя навукоўцы Юрый Лабынцаў і Мікалай Нікалаеў. Юрый Лабынцаў — літаратуразнаўца і кнігазнаўца, які жыве ў Маскве, даследуе гісторыю, культуру і літаратуру Беларусі, — стаў адным з навуковых кансультантаў пры стварэнні экспазіцыі Музея беларускага кнігадрукавання. Міколу Нікалаеву, які жыве ў Санкт-Пецярбургу і з'яўляецца супрацоўнікам Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, музей увогуле абавязаны сваёй экспазіцыяй, якая так уражвае наведвальнікаў. Так склалася наша гісторыя, што мноства (калі не большасць) беларускіх рукапісных кніг і старадрукаў апынулася менавіта ў Пецярбургу. Там, у сталіцы Расійскай імперыі, яны актыўна збіраліся ў XIX — пачатку XX стагоддзяў. Дзякуючы Міколу Нікалаеву, аўтару манаграфіі "Палата кнігапісная" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 1993) і першага тома грунтоўнага даследавання "Гісторыя беларускай кнігі", што нядаўна выйшаў у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", наша кніжная спадчына стала вядомая беларускаму чытачу. А ў экспазіцыі Музея кнігадрукавання наведвальнікі могуць убачыць якасныя і дакладныя копіі самых значных і каштоўных беларускіх кніг, зробленых па пецярбургскіх арыгіналах.

(Працяг на стар. 2)

# Цэнтр прыцягнення нашчадкаў Скарыны

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Даўняе сяброўства звязвае музей з беларусамі Амерыкі. І ў прыватнасці з Вітаўтам Кіпелем, які з 1982 года ўзначальваў Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНіМ) у Нью-Ёрку. Спадар Вітаўт сам тройчы наведваў музей і не раз перадаваў (у тым ліку праз У. Арлова) калекцыі выданняў беларускага замежжа. А ў 2000 годзе Вітаўт і Зора Кіпелі, у чарговы раз наведаўшы Полацк, падаравалі музею сярэбраны абраз Еўфрасінні Полацкай. Зусім нядаўна музей атрымау бібліяграфічны даведнік "Беларускі друк на Захадзе" (Нью-Ёрк — Варшава, 2006) — вынік доўгай і руплівай працы Зоры і Вітаўта Кіпеляў па даследаванні выдавецкай дзейнасці беларусаў, раскіданых воляю лёсу па ўсім свеце.

Гады тры таму ў музей завітаў Алег Рудакоў, які ўзначальвае Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, створанае ў 1996 годзе. Так мы набылі сяброў сярод беларусаў Сібіры, а фонды запаведніка папоўніліся іх выданнямі — у прыватнасці, бюлетэнем "Маланка".

Даўнім сябрам Музея беларускага кнігадрукавання з'яўляецца Уладзімір Арлоў. Вядомы пісьменнік, які нарадзіўся ў Полацку, кожную сваю новую кнігу абавязкова передае музею. Нельга не згадаць і такое шыкоўнае выданне, як "Краіна Беларусь", аўтарам тэксту якога стаў Уладзімір Арлоў, а афармленнем займаўся мастак Зміцер Герасімовіч. Кніга атрымала спецыяльны дыплом "За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны" 44-га Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі-2004" і дыплом III ступені ў намінацыі "Трыумф" I Міжнароднага конкурсу "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД. А таксама сумесны праект Уладзіміра Арлова і Сяргея Плыткевіча – альбом "Ад Полацка пачаўся свет" (гэтае выданне стала лаўрэатам 47-га Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі-2007"). Не раз У. Арлоў перадаваў у фонды запаведніка самую разнастайную літаратуру: кнігі гістарычнай тэматыкі, творы беларускіх аўтараў, выданні беларускага замежжа. Зараз на выставе "Ад старадрукаў да лаўрэатаў", падрыхтаванай супрацоўнікамі музея якраз да 20-гадовага юбілею, наведвальнікі могуць пабачыць "Кнігу Вялікага Княства Літоўскага". Гэтае шыкоўнае выданне на англійскай, беларускай, літоўскай і польскай мовах — плён сумеснай працы навукоўцаў і пісьменнікаў Беларусі, Літвы і Польшчы. Выйшла яна пры падтрымцы фонду "Памежжа" ў Сейнах (Польшча). Кніга цікавая не толькі змешчанымі ў ім эсэ, але і шматлікімі ілюстрацыямі (партрэты гістарычных дзеячаў, карты, выявы гарадоў і твораў мастацтва).

Хочацца расказаць пра яшчэ адну каштоўную калекцыю, прадстаўленую ў музейнай экспазіцыі. Гэта выданні, якія сталі пераможцамі Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі". Ён праводзіцца ў Беларусі з 1964 года. Выданні-лаўрэаты конкурсаў перадаюцца ў Музей беларускага кнігадрукавання. Вядома, на экспазіцыях паказана толькі невялікая частка кніг, якія музей атрымаў толькі за апошнія гады — змясціць усё немагчыма.

Цікавай старонкай нашай кніжнай гісторыі з'яўляецца дзейнасць езуіцкіх друкарняў на Беларусі. Існавала такая,



Адна з каштоўнейшых калекцый у музейнай экспазіцыі — выданні, якія сталі пераможцамі Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі", заснавальнікам якога з'яўляецца Міністэрства інфармацыі краіны. Выданні-лаўрэаты конкурсаў перадаюцца ў Музей беларускага кнігадрукавання.

як вядома, і ў Полацку пры езуіцкім калегіуме. У 1822 годзе друкарня была перададзена піярам. За сем гадоў яны паспелі выдаць больш як 30 кніг рэлігійнага і свецкага характару. Выдавецкая дзейнасць піяраў спынілася ў 1830 годзе ў сувязі з выгнаннем іх з Полацка і закрыццём вучылішча. Друкарня ж была перададзена Кіеўскаму ўніверсітэту. І вось зусім нядаўна кнігазбор музея папоўніўся сапраўдным рарытэтам — "Рымскім імшалам", выдадзеным у Полацкай друкарні піяраў у 1826 годзе. Падараваў каштоўнае выданне музею Андрэй Макагон — палачанін, які зараз жыве ў Маскве.

У межах святкавання 20-годдзя музея прайшла канферэнцыя "Скарынаўскія чытанні", на якую ў якасці ганаровых гасцей запрошаны многія са згаданых асоб.

Стварэннем навуковай канцэпцыі займалася група навуковых супрацоўнікаў запаведніка пад кіраўніцтвам Галіны Ладзісавай — В. Траццякова, В. Краско, Т. Джумантаева. Над мастацкім рашэннем экспазіцыі працавалі навапалацкія мастакі Сяргей Дзмітрыеў і Ігар Куржалаў. Галіна Ладзісава стала першым загадчыкам Музея беларускага кнігадрукавання і ўзначальвала яго на працягу 10 год. (Цяпер на гэтай пасадзе — Алена Шумовіч). Змяніўся за гэты час і склад супрацоўнікаў. Але тыя, хто працуюць зараз, не толькі з удзячнасцю ўзгадваюць імёны пачынальнікаў, але робяць усё для далейшага існавання і развіцця музея.

Вера АШУЕВА,
старшы навуковы супрацоўнік Музея беларускага кнігадрукавання

На здымках: Музей беларускага кнігадрукавання; адно з рэдкіх выданняў.

Сто год кнізе

# Першая, папулярная



У верасні 1910 года ў друкарні Марціна Кухты свет пабачыла "Кароткая гісторыя Беларусі" Вацлава Ластоўскага. Каштавала яна на той час не вельмі дорага — 60 капеек, і адразу ж стала адной з самых запатрабаваных кніг свайго часу.

Вацлаў Ластоўскі вядомы беларускай навуцы як актыўны дзеяч нацыянальнага руху пачатку XX ст., як палітык, літаратар, гісторык. У кожную з названых вышэй галін чалавечай дзейнасці ён унёс вялікі ўклад, адзначыўся сваім індывідуальным стылем. Што датычыцца гісторыі, тут яму належыць аўтарства распрацоўкі нацыянальнай канцэпцыі, асновы якой былі закладзеныя ў адной з першых навукова-публіцыстычных прац — "Кароткай гісторыі Беларусі". Кніга гэтая ўнікальная і геніяльная, бо застаецца актуальнай нават праз сто год пасля выдання.

Першая папулярная гісторыя Беларусі, напісаная для беларусаў па-беларуску, была запатрабавана задоўга да з'яўлення цыкла публікацый на старонках "Нашай Нівы". У 1906 годзе ў гэтай жа газеце нехта Янук Белы прасіў рэдакцыю падказаць яму такую кнігу і выказаў пажаданне, каб хто-небудзь узяўся яе напісаць. Праз 4 гады, у 1910 годзе, Вацлаў Ластоўскі змог адказаць на попыт прапановай — пачаў публікаваць з 1 студзеня асобныя артыкулы "Кароткай гісторыі Беларусі", а ў верасні аб'яднаў іх пад адной вокладкай і выдаў у друкарні Марціна Кухты з такой жа назвай. Аднак савецкая ўлада ўнесла карэктывы, назвала В. Ластоўскага ідэолагам беларускага нацыяналізму, фальсіфікатарам гісторыі і, адпаведна, забараніла публікацыю яго прац. Да канца 1980-х імя аўтара першай беларускай гісторыі было забыта, і вернута толькі дзякуючы даследаванням Язэпа Янушкевіча, які склаў літаратурна-гістарычны партрэт В. Ластоўскага. А ў 1992 годзе была перавыдадзена і "Кароткая гісторыя Беларусі".

Не будучы прафесійным гісторыкам, але з'яўляючыся патрыётам і дасведчаным у розных сферах жыцця чалавекам, Власт (адзін з псеўданімаў Вацлава Ластоўскага) па-новаму ацаніў падзеі мінулага краіны, расставіў на іх акцэнты, бо разглядаў і характарызаваў падзеі адпаведна карысці ці шкоды, нанесенай імі беларусам. У першую чаргу сваю працу ён прысвяціў тагачаснай інтэлігенцыі, сярод якой панаваў нацыянальны нігілізм, якая кіравала справамі нацыянальнага адраджэння і якая несла яго ідэі ў шырокія народныя масы. Выкарыстоўваючы каштоўнасны метад, В. Ластоўскі не ставіў на мэце сістэматычна і падрабязна паказаць і ацаніць гістарычныя падзеі. Мінулае Беларусі ў яго даследаванні было прадстаўлена праз разгляд культурных пераўтварэнняў і палітычных падзей, што адбываліся на нашых землях.

"Кароткая гісторыя Беларусі" паступова вяртала беларусам нацыянальную самасвядомасць і годнасць, адкрывала імёны сваіх герояў (Усяслаў Чарадзей, Вітаўт, Францыск Скарына, Януш Радзівіл, Францішак Багушэвіч ды іншых), паказвала рабаўніцка-захопніцкія адносіны краін-суседак (Лівонская вайна, Люблінская ўнія, прыпыненне выкарыстання на дзяржаўным узроўні беларускай мовы, вайна 1654-1667 гг., падзелы Рэчы Паспалітай), уплыў канфесій на нацыятворчы працэс.

Кніга на 104 старонках утрымлівае 40 "рысункаў", сярод якіх — узоры старабеларускага пісьменства, партрэты і фотаздымкі гістарычных асоб і дзеячаў беларускага адраджэння, а таксама выявы гарадоў і беларускіх строяў у розных мясцовасцях. Да кожнага "рысунка" прыведзены каментар з дакладным апісаннем. Нягледзячы на тое, што за сто год з часу выхаду ў свет "Кароткай гісторыі Беларусі" былі адкрыты новыя факты мінулага, распрацаваны новыя метадалагічныя падыходы да яго вывучэння, работа Вацлава Ластоўскага застаецца каштоўнай і сёння, бо прысвечана яна пераўтварэнню беларускага народа ў суб'ект уласнай гісторыі.

Анастасія ВЕСЯЛУХА

Варта прачытаць

# Ад Біблii да «Кібернетыкі» Норберта Вінера

У Маскве выдадзена энцыклапедыя пра Кнігу скарыназнаўца Яўгена Неміроўскага.

Рускі кнігазнавец Яўген Львовіч Неміроўскі (нарадзіўся ў 1915 годзе ў Кіраваградзе, ва Украіне) за гады сваёй даследчыцкай працы нямала зрабіў на ніве гісторыі Беларусі. Пяру вучонага, доктара гістарычных навук належаць артыкулы, прысвечаныя Ф. Скарыне: "Беларускі першадрукар Францыск Скарына", "Подзвіг доктара Скарыны", "Пражскія выданні Францыска Скарыны ў фондзе Аддзела рэдкіх кніг", "Апостал 1525 Францыска Скарыны", "Спадчына Францыска Скарыны ў савецкіх і замежных кнігасховішчах" і інш. Я. Неміроўскі — аўтар кніг "Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указатель литературы 1517 — 1977" (Масква, 1978), "Иван Фёдоров в Белоруссии" (Масква, 1979), "Острожская Азбука Ивана Фёдорова" (Масква, 1983). Да 500-годдзя беларускага першадрукара ў Мінску пабачыла свет кніга Неміроўскага "Франциск Скорина. Жизнь и деятельность белорусского просветителя". За гэтую работу, іншыя скарыназнаўчыя даследаванні, у тым ліку — дакументальную аповесць "По следам Франциска Скорины", Яўген Львовіч быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

Новая праца кнігазнаўцы, гісторыка беларускага пісьменства — "Вялікая кніга пра Кнігу: даведачна-энцыклапедычнае выданне". Я. Неміроўскі распавядае пра ўзнікненне кнігадрукавання ў славян, пра першыя газеты і часопісы, прамы-




словы пераварот у кніжнай справе, электронныя кнігі, пра выданні, якія адыгралі найболей важную ролю ў лёсе чалавецтва. 1088 кніжныя старонкі дапаўняюць сотні ілюстрацый, што дапамагаюць нам ажыццявіць кнігазнаўчыя падарожжы ў розныя мінулыя стагоддзі. Аўтар задае мноства пытанняў і сам на іх адказвае. Даведнік створаны ў лепшых традыцыях навукова-папулярнай літаратуры. Завяршае кнігу "Паказальнік імёнаў". Складзены ён па алфавіце ў межах кожнай главы, паасобку. Такая "апаратная" падказка спрыяе рабоце чытача са шматстаронкавай энцыклапедыяй.

Знайшлося ў "Вялікай кнізе пра Кнігу" месца і "беларускім старонкам". Пра легендарнага ўсходнеславянскага першадрукара — нарыс "Подзвіг доктара Скарыны". У расповедзе пра Івана Фёдарава вылучаны раздзел "На беларускіх землях". А яшчэ ж, расказваючы пра рускага першадрукара, Я. Неміроўскі звяртае ўвагу на славуты помнік кнігадрукавання — Астрожскую Біблію. Лебядзінай песняй Івана Фёдарава называе даследчык гэтую кнігу ў 1256 старонак. Дарэчы, да сённяшніх дзён дайшло болей 350 экзэмпляраў гэтага найцікавейшага фаліянта. Тры з іх знаходзяцца ў Мінску. Сярод герояў "Вялікай кнігі..." — Сымон Будны, Сімяон Полацкі, Пётр Мсціславец, Васіль Цяпінскі, Спірыдон Собаль.

Наклад унікальнага па абсягах кнігазнаўчай інфармацыі выдання — 3000 экзэмпляраў. Будзем спадзявацца, што новая праца Я. Неміроўскага патрапіць і ў галоўныя бібліятэкі нашай краіны.

Мікола БЕРЛЕЖ

# Навінкі кнігавыдання

**Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам**

Цяпло. Тэрмадынаміка

Степанов, К. Л. Теплопроводность: распространение тепловых волн, численные методы в теплопроводности / К. Л. Степанов. — Минск: ИТМО НАН Беларуси, 2010. — 43 с. — 60 экз.

Фисенко, С. П. Кинетика формирования ансамблей наночастиц при испарении капель растворов / С. П. Фисенко, Ю. А. Ходыко. — Минск: ИТМО НАН Беларуси, 2010. — 41 с. — 60 экз.

Будова матэрыі. Уласцівасці і структура малекулярных сістэм

Шадров, В. Г. Межкристаллитное магнитное взаимодействие и свойства магнитных наноструктур / В. Г. Шадров; Национальная академия наук Беларуси, ГО «Научно-практический центр НАН Беларуси по материаловедению». — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — 232 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-476-819-9 (в пер.).

Хімія. Крышталяграфія. Мінералогія

Сячко, В. І. Сшытак для лабараторных доследаў і практычных работ па хіміі для 7 класа: дадатак да падручніка «Хімія» для 8-га класа агульнаадукацыйных устаноў (аўтары: І. Я. Шымановіч [і інш.]): дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання / В. І. Сячко. — 3-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 48 с. — 7500 экз. — ISBN 978-985-529-441-3.

Сячко, В. І. Сшытак для лабараторных доследаў і практычных работ па хіміі для 8 класа: дадатак да падручніка «Хімія» для 9-га класа агульнаадукацыйнай школы (аўтары: І. Я. Шымановіч, А. І. Васілеўская, В. І. Сячко): дапаможнік для вучняў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, з беларускай мовай навучання / В. І. Сячко. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 43 с. — 7500 экз. — ISBN 978-985-529-442-0.

Сячко, В. І. Сшытак для лабараторных доследаў і практычных работ па хіміі для 10 класа: дадатак да падручніка «Хімія» для 11-га класа агульнаадукацыйных устаноў (аўтары: І. Я. Шымановіч [і інш.]): дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання / В. І. Сячко. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 61 с. — 6500 экз. — ISBN 978-985-529-444-4.

Атрахимович, Г. Э. Учебные материалы по химии для абитуриентов: учебно-методическое пособие / Г. Э. Атрахимович, Л. И. Пансевич; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра общей химии. — 7-е изд. — Минск: БГМУ, 2010. — 120 с. — 35 экз. — ISBN 978-985-528-192-5.

Сечко, О. И. Тетрадь для лабораторных опытов и практических работ по химии для 7 класса: приложение к учебнику «Химия» для 8-го класса общеобразовательных учреждений (авторы: И. Е. Шиманович [и др.]): пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / О. И. Сечко. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2010. — 48 с. — 25000 экз. — ISBN 978-985-529-406-2.

Сечко, О. И. Тетрадь для лабораторных опытов и практических работ по химии для 8 класса: приложение к учебнику «Химия» для 9-го класса общеобразовательных учреждений (авторы: И. Е. Шиманович, Е. И. Василевская, О. И. Сечко): пособие для учащихся учреждений, обеспечивающих получение общего среднего образования, с русским языком обучения / О. И. Сечко. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2010. — 46 с. — 25000 экз. — ISBN 978-985-529-407-9.

Сечко, О. И. Тетрадь для лабораторных опытов и практических работ по химии для 10 класса: приложение к учебнику «Химия» для 11-го класса общеобразовательных учреждений (авторы: И. Е. Шиманович [и др.]): пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / О. И. Сечко. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2010. — 61 с. — 21000 экз. — ISBN 978-985-529-408-6.

Химия молекулярных растворов: учебно-методическое пособие для студентов биологического факультета / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина; [составители: Н. С. Ступень, Л. И. Равленко]. — Брест: БрГУ, 2010. — 52 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-473-548-1.

Шарапа, Е. И. Тетрадь для лабораторных опытов и практических работ по химии для 9 класса: приложение к учебнику «Химия» для 11-го класса общеобразовательных учреждений (авторы: А. П. Ельницкий, Е. И. Шарапа): пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Е. И. Шарапа, А. П. Ельницкий. — Минск: Аверсэв, 2010. — 47 с. — 25000 экз. — ISBN 978-985-533-100-2.

Неарганічная хімія

Жарский, И. М. Задачи и упражнения по химии элементов: учебно-методическое пособие для студентов инженерно-экономических специальностей / И. М. Жарский, А. И. Волков, О. Н. Комшилова; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2010. — 256 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-434-957-2.

Химия d-элементов: курс лекций для студентов биологического факультета / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина; [составители: Н. С. Ступень, В. В. Коваленко]. — Брест: БрГУ, 2010. — 95 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-473-549-8.

Арганічная хімія

Органическая химия: весь школьный курс в таблицах / [составители: С. А. Литвинова, Н. В. Манкевич]. — 3-е изд. — Минск: Современная школа: Кузьма, 2010. — 383 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-513-933-2 (Современная школа). — ISBN 978-985-453-317-9 (Кузьма).

Навукі аб Зямлі. Геалагічныя навукі

Ярцев, В. И. Геологический словарь: понятия и термины / В. И. Ярцев. — Минск: Беларуская навука, 2010. — 686 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1164-6 (в пер.).

Агульная геалогія. Метэаралогія. Кліматалогія. Стратыграфія. Палеагеаграфія

Вклад международных организаций и инициатив в сохранение биоразнообразия на территории Республики Беларусь = Contribution of international organisations and initiatives into preservation of biodiversity at the territory of the Republic of Belarus: (на примере опыта практической реализации проектов ПРООН/ГЭФ): 2010 международный год биоразнообразия / Программа развития ООН, Глобальный экологический фонд, Королевское общество защиты птиц, Министерство лесного хозяйства Республики Беларусь, Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь. — Минск, 2010. — 26 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 200 экз.

Логинов, В. Ф. Инициализация Программы действий в свете изменения климата. Изменения климата в Беларуси и их последствия для ключевых секторов экономики (сельское, лесное и водное хозяйство) / В. Ф. Логинов; Институт природопользования Национальной академии наук Беларуси, РУП «БелНИЦ «Экология» [Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды]. — Минск: БелНИЦ «Экология», 2010. — 151 с. — 60 экз.

Біялагічныя навукі ў цэлым

Біялогія: вучэбны дапаможнік для 7-га класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання / [В. М. Ціхаміраў і інш.]; пад рэдакцыяй В. М. Ціхамірава; [пераклад з рускай мовы Г. І. Кулеш]. — Мінск: Народная асвета, 2010. — 198 с. — 23060 экз. — ISBN 978-985-03-1340-9 (у пер.).

Лісаў, М. Дз. Рабочы сшытак па біялогіі для 6 класа: дадатак да падручніка «Біялогія» для 6-га класа агульнаадукацыйных устаноў (аўтар М. Дз. Лісаў): дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання / М. Дз. Лісаў, А. І. Шарапа, А. В. Баршчэўская. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 76 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-509-720-5.

Машчанка, М. В. Сшытак для практычных заданняў і лабараторных работ па біялогіі для 9 класа: дадатак да падручніка «Біялогія» для 9-га класа агульнаадукацыйнай школы (аўтары: М. В. Машчанка, А. Л. Барысаў): дапаможнік для вучняў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, з беларускай мовай навучання / М. В. Машчанка, А. Л. Барысаў, А. І. Выгоўская. — 3-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 127 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-457-4.

Биология: учебное пособие для 7-го класса общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / [В. Н. Тихомиров и др.]; под редакцией В. Н. Тихомирова. — Минск: Народная асвета, 2010. — 198 с. — 90800 экз. — ISBN 978-985-03-1339-3 (в пер.).

Лисов, Н. Д. Рабочая тетрадь по биологии для 6 класса: приложение к учебнику «Биология» для 6-го класса общеобразовательных учреждений (автор Н. Д. Лисов): пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Н. Д. Лисов, Е. И. Шарапа, Е. В. Борщевская. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2010. — 76 с. — 25000 экз. — ISBN 978-985-529-409-3.

Лисов, Н. Д. Тетрадь для лабораторных работ и практических заданий по биологии для 10 класса: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Н. Д. Лисов, З. И. Шелег. — 8-е изд. — Минск: Аверсэв, 2010. — 111 с. — 17000 экз. — ISBN 978-985-529-410-9.

Медицинская биология и общая генетика для медицинского факультета иностранных учащихся: учебно-методическое пособие / [В. Э. Бутвиловский и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра биологии. — 3-е изд. — Минск: БГМУ, 2010. — 228 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-528-153-6.

Агульная экалогія. Біяцэналогія. Гідрабіялогія. Біягеаграфія

Фралоў, А. В. Асновы экалогіі і эканоміка прыродакарыстання: вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па эканамічных спецыяльнасцях / А. В. Фралоў. — Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2010. — 270 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-476-792-5.

Федорук, А. Т. Экология: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по биологическим специальностям / А. Т. Федорук. — Минск: Вышэйшая школа, 2010. — 461 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-06-1868-9 (в пер.).

Матэрыяльныя асновы жыцця. Біяхімія. Малекулярная біялогія. Біяфізіка

Апрасюхина, Н. И. Биохимия: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-03 02 01 «Физическая культура»: в 2 ч. / Н. И. Апрасюхина; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2010 — ISBN 978-985-531-057-1.

Ч. 1. — 2010. — 198 с. — 165 экз. — ISBN 978-985-531-058-8.

Молекулярные, мембранные и клеточные основы функционирования биосистем: международная научная конференция, Девятый съезд Белорусского общественного объединения фотобиологов и биофизиков, 23–25 июня 2010 г., Минск, Беларусь: сборник статей: в 2 ч. / [редколлегия: И. Д. Волотовский (председатель) и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — Часть текста на английском языке. — 250 экз. — ISBN 978-985-476-826-7.

Ч. 1. — 347 с. — ISBN 978-985-476-827-4.

Ч. 2. — 384 с. — ISBN 978-985-476-828-1.

Сборник иллюстраций к лекциям по биологической химии: учебно-методическое пособие: [для студентов / А. Д. Таганович и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра биологической химии. — 2-е изд., исправленное. — Минск: БГМУ, 2010. — 85 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-528-160-4.

Вірусалогія

Хрусталев, В. В. Биохимические механизмы мутационного давления в методологии вычислительной биологии: монография / В. В. Хрусталев; под редакцией Е. В. Барковского; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра общей химии. — Минск: БГМУ, 2010. — 211 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-528-110-9.

Мікрабіялогія

Современное состояние и перспективы развития микробиологии и биотехнологии: материалы VII Международной конференции (Минск, 31 мая – 4 июня 2010 г.) / [под редакцией Э. И. Коломиец, А. Г. Лобанка]. — Минск: Беларуская навука, 2010. — 515 с. — Часть текста на английском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1168-4.

Батаніка

Ботаника: (исследования): [сборник научных трудов] / Национальная академия наук Беларуси, Отделение биологических наук, Государственное научное учреждение «Институт экспериментальной ботаники им. В. Ф. Купревича», Общественное объединение «Белорусское ботаническое общество», Белорусское общественное объединение физиологов растений. — Минск, 1959–

Вып. 38 / [научные редакторы: Н. А. Ламан, В. И. Парфенов]. — Право и экономика, 2010. — 463 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-442-812-3.

Лекарственные, ядовитые и вредные растения: учебно-методическое пособие для студентов биотехнологического и ветеринарного факультетов / [Н. П. Лукашевич и др.]; Витебская государственная академия ветеринарной медицины, Кафедра кормопроизводства и производственного обучения. — Витебск: ВГАВМ, 2010. — 163 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-512-297-6.

Заалогія

Лопатин, И. К. Зоология беспозвоночных: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по биологическим специальностям / И. К. Лопатин, Ж. Е. Мелешко. — Минск: БГУ, 2009. — 246 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-518-141-6 (в пер.).

ПРЫКЛАДНЫЯ НАВУКІ. МЕДЫЦЫНА. ТЭХНАЛОГІЯ

Медыцынскія навукі

Актуальные проблемы спортивной медицины и реабилитации: материалы конференции, посвященные 60-летию государственного учреждения «Областной диспансер спортивной медицины» г. Гродно, 27–28 мая 2010 г. / под редакцией Л. А. Пироговой. — Гродно: ГрГМУ, 2010. — 191 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-496-631-1.

Баранов, А. П. Медицинская и биологическая физика: учебное пособие для студентов лечебно-профилактического факультета / А. П. Баранов, М. Ф. Клименок; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — 2-е изд. — Витебск: ВГМУ, 2010. — 391 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-466-406-4.

Кадры в здравоохранении, фармации и системе социальной защиты: образцы должностных инструкций, квалификационные характеристики / [автор-составитель Липень Л. И.]. — 2-е изд., переработанное и дополненное. — Минск: Дикта, 2010. — 291 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-494-512-5.

Конференция студентов и молодых ученых, посвященная памяти профессора И. П. Протасевича (2010; Гродно). Тезисы докладов конференции студентов и молодых ученых, посвященной памяти профессора И. П. Протасевича, 15–16 апреля 2010 г. / [редколлегия: Гарелик П. В. (отв. редактор) и др.]. — Гродно: ГрГМУ, 2010. — 519 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 35 экз. — ISBN 978-985-496-622-9.

Медико-социальная экология личности: состояние и перспективы: материалы VIII Международной конференции, 2–3 апреля 2010 г., Минск: в 2 ч. / [редколлегия: В. А. Прокашева (отв. ред.) и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — 200 экз. — ISBN 978-985-476-789-5.

# Лялькі — не забаўкі



Кожная маленькая дзяўчынка марыць знайсці ў новай ляльцы верную сяброўку або ўяўляе яе сваёй дачушкай, а кожны рэжысёр лялечнага тэатра марыць пра тое, каб яго зусім не дзіцячыя лялькі сталі для гледача не проста вырабамі з тканіны, дрэва, пластыку, а своеасаблівымі праваднікамі ў невырагодны, алегарычны, часам фантастычны свет вобразаў і падзей... нагодай для нашай размовы з галоўным рэжысёрам Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксеем Ляляўскім стаўся пачатак новага сезона. Адкрылі ж сезон адразу дзве прэм'еры: "Драй швэстэрн" у пастаноўцы А. Ляляўскага і мастачкі Т. Нерсісян ды "Марынка-Крапіўніца" — рэжысёр А. Янушкевіч, мастак-пастаноўшчык В. Рачкоўскі.

— Аляксей Анатольевіч, скажыце, калі ласка, чаму назва прэм'ернага спектакля паводле п'есы "Тры сястры" пададзена "Драй швэстэрн", на нямецкай мове — а не на рускай, як у Чэхава?

— Ёсць некалькі прычын. Па-першае, прататыпамі трох сясцёр былі сёстры Цымерман, нямецкага паходжання, якія жылі ў горадзе Перм і выкладалі замежныя мовы ў гімназіі. Па-другое, такая назва адлюстроўвае вельмі цесную ўзаемасувязь рускай і нямецкай культур у той час. Але калі ў сталіцы веданне нямецкай культуры і мовы лічылася прыкметай адукаванасці, інтэлігентнасці, то правінцыя (той жа горад Перм, дзе жылі сёстры Цымерман) з насцярожанасцю і часам варожасцю адносілася да іншаземцаў. Вось, напрыклад, жонку імператара Мікалая, вялікую князёўну Аляксандру Фёдараўну, якая была менавіта нямецкага паходжання, так і называлі "немка" і абвінавачвалі ва ўсіх смяротных грахах. Да таго ж, назва "Драй швэстэрн" напісана па-нямецку, але рускімі літарамі, што таксама адлюстроўвае сутнасць спектакля. (Аляксей Ляляўскі вядомы тэатралам сваімі аўтарскімі трактоўкамі п'ес А. Чэхава "Вішнёвы сад" і "Чайка", якія мелі розгалас і ў замежжы. — Рэд.)

— Ці плануеце прадстаўляць сваю новую пастаноўку на міжнародных конкурсах, фестывалях?

— Складана пра гэта гаварыць, не вывучыўшы рэакцыю гледачоў. Тым больш, фестывальнае жыццё — гэта асобная частка ўсіх тэатральных паказаў, залежная, у першую чаргу, ад арганізатараў конкурсу, якія падбіраюць пэўную праграму. Калі будзе праходзіць фестываль класічных чэхаўскіх пастановак, то мы, вядома, адмовімся нават ад падачы заяўкі на ўдзел, бо не хочацца псаваць уяўленне гледача пра класічнага Чэхава. Зусім іншая рэч — фестываль, які прадстаўляе разнастайныя погляды на творчасць Антона Паўлавіча. Тады, зразумела, мы з вялікім задавальненнем возьмем удзел у такім фестывалі. Але ўсё ж такі паездка на конкурсы, на жаль, залежыць і ад матэрыяльнага складніка мастацтва. Таму даводзіцца выбіраць, шукаць магчымасці фінансавання гэтых паездак. Арганізатары фестывалю павінны быць зацікаўленыя ў спектаклі, які яны запрашаюць, і павінны аплаціць некаторыя выдаткі.

— Акрамя часам недастатковага фінансавання, з якімі цяжкасцямі сутыкаецца сёння Беларускі дзяржаўны тэатр лялек?

— У першую чаргу — з недахопам кадраў. Дакладней, усіх хапае, але хацелася б, каб існавала больш моцная творчая канкурэнцыя. Яна стымулюе развіццё тэатра, літаратуры дый увогуле кожнага віду мастацтва. Ёсць праблема і з матэрыяламі, абсталяваннем. Многае з таго, што неабходна для стварэння лялькі, у нашай краіне не выпускаецца, або з набыццём таго ці іншага матэрыялу ўзнікаюць цяжкасці. Тады патрэбныя ўжо зусім іншыя грошы, афармленне вялікай колькасці папер. Гэта займае час, што, безумоўна, замаруджвае творчы працэс.

— Як вы лічыце, дзе больш цікавяцца лялечным тэатрам: у Беларусі ці за мяжой? І хто часцей за ўсё прыходзіць на спектаклі?

— Ведаеце, кожны чалавек ставіцца да лялечнага тэатра па-свойму. За мяжой спектаклі для маленькіх, — такія, як, напрыклад, наша свежая прэм'ера "Марынка-крапіўніца" паводле Артура Вольскага і Петруся Макаля, дзе дабро заўжды перамагае зло, дзе адлюстроўваецца кемлівасць, смеласць гераіні, — цэняць за магчымасць разнастаіць адукацыйны працэс, развіць у дзетак добры мастацкі густ. Гэта асобная публіка. Калі казаць пра пастаноўкі для дарослых, то на іх у першую чаргу прыходзіць моладзь, таму што лялечны тэатр, у адрозненне ад драматычнага, які наведваюць людзі салідныя, заможныя, з'яўляецца маторам новага ў тэатральным мастацтве: тут магчымыя шматлікія эксперыменты, сумесі жанраў, стыляў. У нас, у Беларусі, усё па-іншаму. Тэатр для маленькіх — гэта часцей за ўсё тэатр для бацькоў з дзеткамі. Што датычыць школ, дзіцячых садкоў, то беларуская адукацыйная сістэма не прадугледжвае праграму эстэтычнага развіцця дзяцей і таму колькасць маленькіх наведвальнікаў у нас значна меншая. Асноўная публіка спектакляў для дарослых — такія вось аматары, якія гэтым цікавяцца, якія адкрытыя для тэатральных эксперыментаў. Не магу сказаць, што нас наведвае толькі моладзь або пажылыя людзі, бізнэсоўцы або настаўнікі. У наш тэатр прыходзяць розныя людзі і ў першую чаргу тыя, хто бачыць за словамі "лялечны тэатр" нешта большае, чым проста гульню ў лялькі на сцэне.

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксей Ляляўскі.

Фота аўтара

---

На глыбоцкай зямлі, дзе нарадзіліся Вацлаў Ластоўскі, Язэп Драздовіч, Ігнат Буйніцкі, прайшоў VI Міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм "Magnificat", заснавальнікамі якога з'яўляюцца Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, Каталіцкая асацыяцыя для камунікацый "Signis-Беларусь" і яе старшыня Юрый Гарулёў, Віцебская дыяцэзія, рэдакцыя культурна-рэлігійнага часопіса "Дыялог", прыватнае ўнітарнае прадпрыемства "Стопкадр". У межах конкурснай праграмы фестывальным журы было прагледжана 48 мастацкіх, дакументальных і анімацыйных стужак з 15 краін-удзельніц творчага спаборніцтва. Але рэкордная для гэтага фестывалю колькасць краін-удзельніц — не адзіная асаблівасць сёлетняга форуму.



## З фестывалю «Magnificat-2010»

# Кіно як прапаведзь



"Magnificat-2010" адметны тым, што яго адкрыццё і першы конкурсны дзень упершыню прайшлі ў Мінску, у касцёле Святых Сымона і Алены. Падчас адкрыцця неаднаразова адзначалася, што гэта добры і вельмі перспектыўны крок, які можа стаць традыцыяй. У Мінску на першы конкурсны прагляд сабралася шмат зацікаўленых людзей рознага ўзросту, як студэнтаў, так і асоб сталага веку. Член журы, акцёр і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі, які да таго ж ужо на працягу чатырох фестывальных гадоў агучвае ўсе фільмы замежнай праграмы, заўважае: "Было прыемна бачыць калейдаскоп твараў, людзей, якія сабраліся менавіта ў Мінску. Што да адметнасцей, то гэта самы прафесійны фестываль за многія гады. Не толькі па колькасці стужак, але і па ўзроўні майстэрства фільмаў. Раней мы адзначалі некалькі кінематаграфічных школ: Польшча, Італія, Швейцарыя, Канада. А сёння ў гэтую геаграфію ўключаем не толькі айчынныя фільмы, якія таксама славяцца ва ўсім свеце, але і стужкі, што становяцца на ўзровень з італьянскімі і польскімі, — украінскія, расійскія ды фільмы з тых краін, якія ў фестывалі сёлета ўдзельнічалі ўпершыню: краіны Балтыі, Індыя, Харватыя, Грузія. Нас вельмі ўразіў фільм з Грузіі, які стаў нават адным з асноўных прэтэндэнтаў на галоўны прыз".

Штогод у фестывалі "Magnificat" бяруць удзел каля 50 фільмаў з розных краін свету, і кожная стужка — асобны свет, створаны сваім майстрам. "Калі мы звернемся да гэтага багацця, — разважае Алег Вінярскі, — і будзем паказваць фрагменты фільмаў, якія маглі б стаць увасабленнем хрысціянскага кіно, тады і ў людзей будзе большая прага запоўніць белыя плямы сучаснай гісторыі".

У конкурснай праграме прадстаўлены стужкі, якія распавядаюць пра жыццё звычайных людзей, вясковых, гарадскіх жыхароў, часам сацыяльна неўладкаваных. Што ж робіць гэтыя фільмы прыкладамі менавіта хрысціянскага кіно?: "Першы паказчык, — на думку Алега Аляксандравіча, — спагада, міласэрнасць, спачуванне чалавеку, які на дадзеным адрэзку жыцця нейкім чынам абяздолены. Яшчэ адзін крытэрый хрысціянскага кіно — разуменне, што так, як паказана ў фільме, нельга жыць у грамадстве XXI стагоддзя, і імкненне зрабіць нешта, каб і абяздоленыя людзі маглі радавацца жыццю".

Паводле традыцыі, "Magnificat" мае тры галоўныя ўзнагароды: Гран-пры, прыз за лепшы дакументальны фільм і прыз за лепшую тэлепраграму. Члены журы, а ў іх ліку былі і прафесіяналы, якія маюць не толькі практычны, але і тэарэтычны досвед у кінамастацтве, апынуліся ў разгубленасці, каго абраць пераможцам. Асноўнымі кандыдатамі на перамогу былі італьянскі фільм "Дзённік горнага святара" (рэжысёр Стэфана Саверыёні) і грузінская стужка "Прытулак" (аўтар сцэнарыя і рэжысёр Роланд (Міха) Барашвілі). У першым фільме галоўны герой — малады святар, пасланы на службу ў горную італьянскую вёску. Ён ідзе да людзей, хоча, каб яго намаганні прынеслі асалоду вернікам, якіх ён асвячае. Служба ў гэтай вёсцы — пэўнага кшталту іспыт для маладога святара, але часам выпрабаванне становіцца сапраўднай узнагародай. "А як ён кажа ў гэтым фільме! — дзеліцца ўражаннямі А. Вінярскі. — Гэта проста ступень той праўды, на якую няздольныя многія людзі сёння, ён выказваецца не толькі наконт святарства, царквы, але і наконт месца асобы ў свеце".




Карціна "Прытулак" — пра жыццё людзей у доме састарэлых. У ёй закранаецца тэма адзіноты старога чалавека, сустрэчы з апошняй мяжой быцця. "Мы заўсёды баімся пра гэту тэму сказаць адкрыта, — разважае Алег Аляксандравіч, — але грузінскія кінематаграфісты не пабаяліся выказацца. У гэтым фільме вельмі цікавы тэмпарытм. У ім так далікатна расказана пра старых, так адухоўлена, што паводзіны гэтых людзей успрымаюцца годна і прасветлена. Стужка вучыць стаўленню да рэчаіснасці, якая заўсёды імкнецца "падмяць" чалавека пад сябе. І трэба назапасіць столькі духоўнага скарбу, каб ён змог пратрымацца цябе да апошняга ўздыху. Героі фільма — не кінутыя людзі, і зараз іх турбуе іншы сэнс, сакральны, менавіта тое, што будзе пасля жыцця".

Так, Гран-пры атрымаў "Дзённік горнага святара", а "Прытулак" быў названы лепшым дакументальным фільмам. Прыз за лепшую тэлепраграму прысуджаны расійскай тэлевізійнай праграме "Блакадная вера" (рэжысёры Марыяна Бірукова, Інакенцій Іваноў).

Вядома, беларускае кіно не засталося па-за ўвагай журы, тым болей, што апошнім часам яно зрабіла значны крок наперад у сваім развіцці. Як зазначалі члены журы, беларускія карціны іх вельмі ўразілі. Гэта фільмы, якія ствараюць рэжысёр Уладзімір Арлоў разам з ксяндзом-магістрам Уладзіславам Завальнюком, дакументаліст Вольга Дашук; станоўчую і цікавую работу паказаў Свята-Елізавецінскі манастыр у Мінску, праграма "Існасць" Беларускага тэлебачання штогод прадстаўляе цікавыя і змястоўныя праекты. У ліку моцных быў адзначаны і фільм Ірыны Волах "Лаўрышава".

Што да ўзнагарод, беларускія стужкі атрымалі спецыяльныя прызы. Напрыклад, прыз "За рэжысёрскае асэнсаванне тэмы духоўнага адраджэння чалавека" ад міжнароднага каталіцкага фестывалю "Niepokalanów" (Польшча), атрымаў аўтар сцэнарыя і рэжысёр фільма "Лямпа не гасне" Максім Міхальцоў. Віцебскі аблвыканкам аддаў свой спецпрыз "За стварэнне прывабнага вобраза хрысціянскай Беларусі" Галіне Злабенцы і Валерыі Скварцовай за фільм "Храмавае кола Паазер'я". Вольга Дашук адзначана спецпрызам журы "За паэтычнае асэнсаванне вобраза Беларусі" — фільм "Край Белавежскі".

"Magnificat" адметны перш за ўсё тым, што яго ўдзельнікі, як члены журы, так і канкурсанты, становяцца сапраўднымі сябрамі: сапраўды дзейсным з'яўляецца дэвіз форуму: "Ut unum sint" — "Каб усе былі адно". Іх яднае фестываль, любоў да кіно, спагада да чалавека. А нам, гледачам, застаецца толькі чакаць "Рэха фестывалю" (адбудзецца ў Мінску гэтай восенню), падчас якога можна будзе пабачыць лепшыя фільмы конкурснай праграмы і адкрыць для сябе новыя, невядомыя старонкі дакументальнага кіно.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: сімвалічнае адкрыццё фестывалю; кінарэжысёр Уладзімір Арлоў; сустрэча замежных гасцей у Глыбокім.

# У святле новых фактаў

Академик В. М. Игнатовский: Документы и материалы / сост. В. В. Скалабан, Н. В. Токарев; редкол.: А. А. Коваленя (пред.) [и др.]. — Минск: Беларуская навука, 2010. — 277 с.




Разуменне гісторыі немагчыма без ведання фактаў. У сваю чаргу, адна з задач гісторыка — знаходзіць новыя сведчанні і памяткі, уводзіць іх у навуковы ўжытак і, такім чынам, удакладняць тое, што зроблена да яго. Архіўныя сховішчы нашай краіны, а таксама краін замежжа дагэтуль утойваюць у сабе сотні невядомых дакументаў, якія праліваюць святло на незнаёмыя старонкі беларускага грамадска-культурнага жыцця альбо паказваюць у іншым ракурсе падзеі агульнавядомыя.

Новая кніга ў акадэмічнай серыі НАН Беларусі "Людзі беларускай навукі" (заснавана ў 1997 г.) прадстаўляе постаць, якая правамерна магла б стаць № 1 у гэтай серыі — асобу Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага, арганізатара і першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук, вядомага гісторыка, грамадскага і партыйнага дзеяча 1910 — 1920-х гадоў. Можна нават і не згадваць, наколькі шчыльна звязаны быў У. Ігнатоўскі з пытаннямі беларускай літаратуры і культуры 1920-х гадоў — практычна ўсе тагачасныя творцы былі добра знаёмыя з наркамам і акадэмікам, атрымлівалі ад яго пастаянную дапамогу і падтрымку ў вырашэнні складаных пытанняў.

Наогул існуе некалькі падыходаў да напісання навуковай біяграфіі. Складальнікі кнігі — вядомыя архівісты В. Скалабан і М. Токараў — пайшлі па даволі нестандартным шляху, стварыўшы не біяграфічны нарыс пра У. Ігнатоўскага (які, дарэчы, ужо даўно пабачыў свет), але анталогію дакументаў самога вучонага і прысвечаных яму, упарадкаваных згодна з храналогіяй і асноўнай тэматыкай.

Адкрываюць зборнік матэрыялы пра бацькоў вучонага, паперы з Юр'еўскага ўніверсітэта (цяпер — Тартускага), дзе навучаўся будучы наркам, а таксама аўтабіяграфіі і анкетныя дадзеныя У. Ігнатоўскага. За гэтым, уступным раздзелам далей часткі размяркоўваюцца па месцах працы У. Ігнатоўскага: гэта дакументы пра перыяд выкладання і дырэктарства ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, тут жа — невялікі раздзел пра Беларускую камуністычную арганізацыю (напачатку — аўтаномную, без кіравання з Масквы). Вялікую цікавасць уяўляюць раздзелы пра выкладанне ў БДУ, кіраванне Інбелкультам (у тым ліку працу на вядомай Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу ў 1926 г.), а пасля і Беларускай акадэміяй навук. Трэба сказаць, што гэтыя раздзелы займаюць асноўны аб'ём факталагічнай асновы зборніка; яно і зразумела — увага на дзейнасці ў Акадэміі навук дыктуецца і самім характарам серыі, якая курыруецца асноўнай нацыянальнай навуковай установай. Прымыкаюць да матэрыялаў аб працоўных буднях Ігнатоўскага сумныя старонкі раздзелаў "Трагічны фінал" і "Палітычная рэабілітацыя". Завяршаюць кнігу ўспаміны Х. Імшэніка і І. Рыдзеўскага пра У. Ігнатоўскага. У дадатку змешчаны спіс публікацый самога У. Ігнатоўскага, а таксама спіс друкаваных крыніц пра яго жыццё і дзейнасць.

Думаецца, што падобная анталогія навуковых дакументаў выглядае нават больш прывабнай і захапляльнай, чым уласна класічная біяграфія. Па-першае, тут па вызначэнні не можа быць парушаная гістарычная праўда, бо складальнікі падаюць выключна дакументальныя сведчанні — самыя надзейныя з магчымых. Па-другое, праз простую мову У. Ігнатоўскага, а таксама іншых "персанажаў" ягонай жыццёвай драмы выступаюць незамутнёна і ярка ўмовы бытавання дзеячаў палітыкі і культуры, характар беларускай сітуацыі 1920-х гадоў. Мова анкет і службовых дакументаў, пратаколаў пасяджэнняў (ды нават і проста газетных паведамленняў!) тады яшчэ знаходзілася далёка ад застойнай "засушанасці", мела выразнае суб'ектыўнае адценне, і таму выдатна падыходзіць для ілюстрацыі тагачаснасці. Карціна магла б стаць скажонай пры няпоўным выкарыстанні дакументаў, але на гэты раз усё падрыхтавана на самым высокім узроўні. Адразу трэба сказаць, што ў кнізе сабраныя матэрыялы з архіваў Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Тарту, вялікая частка — друкуецца ўпершыню. Дакументы прыводзяцца ў поўнай адпаведнасці з арыгіналам, узнаўляюцца, напрыклад, характар напісанняў, прыводзяцца ўстаўкі і выкрэсліванні, нават наяўнасць ці адсутнасць подпісаў, іх характар, спосаб напісання, колер атраманту адзначаецца асобна. Уся дакументацыя дбайна адкаменціравана, напрыканцы кнігі прыводзіцца анатаваны паказальнік імёнаў і скарачэнняў, што проста неабходна пры даведачнай працы.

Асаблівасць праўды дакумента — у спляценні нюансаў, праз якое і адкрываецца новае выданне. Каб вычуць рэальнасць гісторыі, трэба валодаць кантэкстам. Менавіта авалоданню гэтай гісторыяй паўсядзённасці (якую прапагандавалі яшчэ Марк Блок і школа "Аналаў") спрыяе кніга пра Усевалада Ігнатоўскага.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

## Філолагу на паліцу




Каб жыло наша Слова: Зб. навук. артык. да 90-годдзя з дня нарадж. Фёдара Янкоўскага / рэдкал.: М. І. Новік [і інш.]; пад агул. рэд. М. І. Новік. — Брэст: Альтернатива, 2009. — 316 с.

Асоба і творчасць Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага не маюць патрэбы ў прадстаўленні чытачу — сёння, на жаль, толькі чытачу, больш ці менш абазнанаму ў беларускай філалогіі. Аўтарытэтны вучоны-беларусіст, настаўнік, пісьменнік, ва ўяўленні не аднаго пакалення айчынных філолагаў ён застаецца сапраўдным "Пачынальнікам і Прадаўжальнікам", стваральнікам і… Ваяром. Гэта чалавек, з іменем якога звязана станаўленне і развіццё ў беларусістыцы такіх кірункаў даследаванняў, як фразеалогія, фразеаграфія, культура маўлення, стварэнне і сёння запатрабаваных дапаможнікаў па гістарычнай граматыцы, дыялекталогіі, сучаснай беларускай мове.

Падрыхтаванае ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна выданне, якое аб'яднала працы не толькі навукоўцаў, што прайшлі "школу Янкоўскага", але і даследчыкаў з усёй Беларусі, якія займаюцца вывучэннем шырокага спектру філалагічных праблем, каштоўнае не толькі як даніна павагі Настаўніку, нястомнаму "шукальніку красы і праўды". Размеркаваныя па сямі раздзелах артыкулы дазваляюць скласці панарамнае і разам з тым дэталізаванае ўяўленне пра навуковую і літаратурна-мастацкую спадчыну Ф. Янкоўскага, асвятляюць розныя аспекты моўных даследаванняў у галіне гісторыі мовы, дыялекталогіі, лексікалогіі, лексікаграфіі, граматыкі, фразеалогіі, паэтыкі мастацкага тэксту, прапануюць асэнсаванне беларускага лінгвакультурнага феномена і г.д. Зборнік насамрэч уражвае шырынёй, разнастайнасцю, арыгінальнасцю філалагічных росшукаў — і колькасцю "маленькіх" (па друкаванай плошчы) адкрыццяў. Хочацца спадзявацца, што нягледзячы на яго больш чым сціплы наклад, нават чалавеку, мінімальна далучанаму да мастацтва беларускай філалогіі, ён дапаможа здзейсніць свае адкрыцці ў сусвеце Слова (перадусім — беларускага).




Сучасная моўная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: праблемы, перспектывы: Матэрыялы Рэсп. навук.-практ. канф. (да 80-годдзя праф. В. У. Протчанкі), Мінск, 9 крас. 2010 г. — Мінск: РІВШ, 2010. — 206 с.

Сёлета споўнілася б 80 гадоў вядомаму навукоўцу, метадысту, педагогу, доктару педагагічных навук, прафесару Васілю Ульянавічу Протчанку. Калегі В.У. Протчанкі, яго вучні, а таксама настаўнікі-славеснікі, метадысты, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў з Мінска, Брэста, Віцебска, Гомеля, Гродна, Мазыра яшчэ ўвесну сабраліся ў навукова-метадычнай установе "Нацыянальны інстытут адукацыі" на канферэнцыі, прысвечанай гэтай даце. Зацікаўленае абмеркаванне навуковай і педагагічнай спадчыны прафесара В. У. Протчанкі, пытанняў рэалізацыі яго метадычных ідэй у працэсе навучання беларускай мове і літаратуры арганічна спалучаліся з дыскусіяй па актуальных праблемах моўнай і літаратурнай адукацыі, узаемадзеяння мовы, літаратуры і культуры, выхавання вучняў праз эстэтыку роднага слова і г.д.

Паказальна, што і падчас канферэнцыі, і ў самім зборніку, складзеным на аснове дакладаў яе ўдзельнікаў, які пабачыў свет напрыканцы жніўня, спадчына В.У. Протчанкі асэнсоўвалася як прыналежная не да мінулага, але да цяперашняга і нават да будучага часу. У тэкстах выдання ўспаміннасць (даклады "На ніве беларускай лінгваметодыкі" Г. М. Валочкі, "Брагіншчына — радзіма выдатнай асобы, вучонага-педагога В. У. Протчанкі" В. В. Шура, "З бацькоўскім клопатам" С. М. Якубы і інш.) надзвычай натуральна лучыцца з роздумамі пра перспектыву ("Протчанкаўская канцэпцыя моўнай адукацыі" У. Ц. Піскуна, А. К. Малюка, "Практыка развіцця крэатыўнасці вучняў у сістэме літаратурнага навучання" В. У. Праскаловіч, "Дай, мова беларуская, руку": моватворчы аспект барадулінскай паэзіі" А. Э. Сабуць ды інш.).

Адрасаваны настаўнікам-славеснікам, выкладчыкам ВНУ, студэнтам і магістрантам філалагічных факультэтаў, аспірантам філалагічных і педагагічных спецыяльнасцей, зборнік "здзейсніўся" не толькі ў якасці даніны павагі — чалавечай і прафесійнай — В. У. Протчанку, але і як адмысловы "пуцевадзіцель" па праблемах сучаснай моўнай і літаратурнай адукацыі.

І.Ш.

## Форумы

* * *

Міжнародныя навуковыя чытанні "Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры" ўжо не адзін год збіраюць у восеньскім Гомелі даследчыкаў літаратуры не толькі з усёй Беларусі, але і з іншых краін. Сёлета яны прысвечаныя памяці народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Івана Навуменкі (85-годдзю з дня яго нараджэння) і будуць праводзіцца 7-8 кастрычніка.

Арганізатары чытанняў — Гомельскі абласны савет дэпутатаў, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны (перадусім, кафедра беларускай літаратуры), Гомельская спецыялізаваная славянская бібліятэка, — здолелі ператварыць іх у сапраўднае свята філалогіі, дзе падчас заўсёды плённага, выніковага абмеркавання пытанняў гісторыі і тэорыі літаратуры ды фальклору наладжваюцца новыя кантакты, запачаткоўваюцца навуковыя і творчыя праекты.

У гэтым годзе праграма навуковых чытанняў прадугледжвае абмеркаванне найбольш актуальных праблем жыццёвага і творчага шляху І. Навуменкі (плануецца праца тэматычных секцый "Спадчына Івана Навуменкі і сучасны літаратурны працэс", "Вайна ў прозе І. Навуменкі і ў славянскіх літаратурах"), а таксама шырокага спектра пытанняў, звязаных з перспектывамі літаратуры класічнага тыпу ў эпоху глабалізацыі, рэгіянальнымі асаблівасцямі развіцця мастацтва слова ў славянскіх літаратурах і г.д.

Дзякуючы арганізатарам удзельнікі сёлетніх чытанняў змогуць не толькі наведаць Гомельскі дварцова-паркавы ансамбль, праплыць на цеплаходзе па рацэ Сож, але і пазнаёміцца падчас краязнаўчай экскурсіі ў Мазыр з мясцінамі, якія ўвасоблены ў творах Івана Навуменкі.

* * *

28 — 29 кастрычніка на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адбудзецца міжнародная навуковая канферэнцыя "Мова — Літаратура — Культура", якую сёлета кафедра сучаснай беларускай мовы будзе праводзіць ужо шосты раз і ў якой традыцыйна бяруць удзел мовазнаўцы, даследчыкі літаратуры і культуры, спецыялісты ў галіне методыкі выкладання філалагічных дысцыплін з розных рэгёнаў нашай рэспублікі, краін блізкага і далёкага замежжа.

Як вынікае з назвы канферэнцыі, праблематыка яе, з аднаго боку, дае магчымасць абмяркоўваць максімальна шырокі спектр пытанняў, надзённых для розных адгалінаванняў філалогіі, з другога, скіроўвае ўдзельнікаў форуму да асэнсавання канкрэтных навуковых праблем у агульнакультурным кантэксце, да пошуку шляхоў іх сістэмнага вырашэння.

Гэтым разам прапанаванае арганізатарамі праблемнае поле аб'ядноўвае мовазнаўчыя даследаванні ("Беларуская мова: нормы, дынаміка, ужыванне", "Нацыянальныя мовы ў іх спецыфіцы і ўзаемадзеянні", "Мова і сродкі масавай інфармацыі"), літаратуразнаўчыя ("Нацыянальная мастацкая літаратура ў кантэксце культуры"), фалькларыстычныя і культуралагічныя ("Міф — фальклор — культура"), а таксама прадугледжвае абмеркаванне актуальных праблем методыкі выкладання філалагічных дысцыплін.

Па выніках канферэнцыі плануецца выданне зборніка яе матэрыялаў, які, мяркуючы па заўсёднай прадстаўнічасці гэтага навуковага форуму, абяцае стаць важкім унёскам у развіццё айчыннай філалогіі.

І. Ш.

* * *

Савет маладых вучоных НАН Беларусі і Маладзёжны савет горада Мінска пры Мінгарвыканкаме напярэдадні Маладзёжнага інавацыйнага форуму Беларусі арганізуюць І рэспубліканскую маладзёжную навукова-практычную канферэнцыю з міжнародным удзелам "Навуковыя памкненні — 2010" (1 — 3 лістапада 2010 г.).

Да ўдзелу ў канферэнцыі запрашаюцца студэнты, выпускнікі ВНУ, магістранты, аспіранты і маладыя вучоныя ва ўзросце да 35 гадоў. У межах форуму плануецца правядзенне шэрага сатэлітных канферэнцый, "круглых сталоў", семінараў, дыскусій па праблемах сучаснай навукі (больш інфармацыі — на сайце www.scienceintention.info). Па выніках канферэнцыі будзе выдадзены зборнік навуковых дакладаў. Тым, хто не паспявае падаць заяўку да 30 верасня просьба звязвацца з каардынатарам канферэнцыі Уладзімірам Уладзіміравічам Казбанавым праз электронную пошту (Vladimir_by@mail.ru) ці па тэлефоне +375 29 401-39-45 да 10 кастрычніка.

Гуманітарны, у тым ліку і філалагічны кірунак канферэнцыі курыруе Аляксей Радзівонавіч Чарняўскі (hum@stremlenie.com, +375 29 774-74-21).

Ц. Ч.

# «Зялёнае царства»: нараджэнне— Віцебшчына

З кніжнага салона ў Санкт-Пецярбургу, у якім па традыцыі ўдзельнічаюць і беларускія выдаўцы, калегі прывезлі зборнікі казак і вершаў Рыгора Шакулава "Зялёнае царства" (Санкт-Пецярбург, "АураИнфо" 2009). Дарчы надпіс належыць ужо дачцэ і ўнукам нашага земляка — Ніне Рыгораўне Андрэю і Аляксею Ільіным, якія жывуць у горадзе на Няве. А вось сам пісьменнік апошнія гады жыцця — з 1960 па 1987 — правёў у Віцебску. Але ж аб усім па парадку…

Рыгор Логінавіч Шакулаў нарадзіўся пад Віцебскам у вёсцы Паўлавічы ў 1910 годзе. Бацькі — звычайныя бедныя сяляне. У сям'і — пяцёра дзяцей. Рыгорка — трэці сын. З самых малады гадоў займаўся рознай сялянскай працай — у агародзе, садзе, на лузе, у полі, пасвіў скаціну. Але ўсё ж закончыў пачатковую і сярэднюю школу. Пасля, у 1931 — Віцебскі педагагічны тэхнікум. Працоўную біяграфію пачаў у Ленінградзе на заводзе "Рухавік" — табельшчыкам, нарміроўшчыкам. Адначасова займаўся на вячэрнім аддзяленні рабфака. У 1933 — 1939 гг. вучыўся ў Ленінградскай Лесатэхнічнай акадэміі імя С. М. Кірава. Наведваў літаратурнае аб'яднанне пры рэдакцыі газеты "Лесная правда" і літаратурны ўніверсітэт пры Доме пісьменнікаў імя У. Маякоўскага. Працуючы пасля заканчэння акадэміі садоўнікам, лесніком і таксатарам у лесаўпарадчых экспедыцыях у Ленінградскай вобласці, Карэліі, Закарпацці, Крыме, Архангельскай вобласці, уважліва прыглядаўся да расліннага і жывёльнага жыцця ў прыродзе. Спакваля назбіраліся найцікавейшыя ўражанні. Бачыў, несумненна, наш зямляк і праблемы, якіх нямала існуе ў прыродзе, якія стварае і чалавек у стасунках з "зялёным сябрам".

5 ліпеня 1941 г. Рыгор Шакулаў пайшоў на фронт добраахвотнікам. Ваяваў на Ленінградскім фронце. Удзельнічаў у прарыве блакады. Быў цяжкапаранены. Атрымаў баявыя ўзнагароды — ордэн Айчыннай вайны I ступені, медалі "За баявыя заслугі", "За абарону Ленінграда"… Шмат якія з вершаў Рыгора Логінавіча, напісаныя ў Вялікую Айчынную, надрукаваны ў франтавых газетах "Боевая тревога", "На страже Родины".

Першая кніга Рыгора Шакулава, адрасаваная дзецям, пабачыла свет у 1954 г. Сярод выдадзеных прыродазнаўчых казак нашага земляка — Крымскае, Архангельскае выдавецтвы. Тыражы — ад 30 да 150 тысяч экзэмпляраў. Апошняя з васьмі прыжыццёвых кніг выйшла ў 1973 г.

А ў 1960 г. пісьменнік-натураліст пераехаў у Віцебск. Працаваў інжынерам гарадскога зялёнага будаўніцтва. У многім воблік паркаў, сквераў, алей горада на Дзвіне залежаў ад старання, працалюбства Рыгора Логінавіча.

— Мы рады, што памяць пра нашага бацьку, дзеда, — любіць паўтараць Ніна Рыгораўна, — захоўваецца ў Віцебску. Матэрыялы пра творчасць Рыгора Шакулава, яго кнігі ёсць у Віцебскім літаратурным музеі, абласным дзяржаўным архіве. А яшчэ большы збор рукапісаў, іншых матэрыялаў захоўваецца ў нашай сям'і. Гэта — і дзённікавыя запісы, эпісталярная спадчына, багаты фотаархіў.

Спадзяёмся, што следам за кнігай "Зялёнае царства", якая летась была выдадзена ў Санкт-Пецярбургу, творы Рыгора Шакулава загучаць і ў перакладзе на беларускую мову.

Мікола БЕРЛЕЖ

## Кнігарня роднаснасці

### Сярод бліжэйшых суседзяў

Як добра, што ў Мінску ёсць "Кніжны салон" (нагадаю яго адрас: Калініна, 5). У беластоцкай "Ніве" прачытаў нядаўна інфармацыю пра тое, што ў Вільнюсе выйшла кніга Аляксандра Адамковіча "Беларусы ў Літве: учора і сёння", і пазваніў наконт гэтага ў названую кнігарню. Роўна праз два тыдні адтуль паведамілі: выданне па вашым заказе дастаўлена, прыязджайце і набывайце.

І вось перада мною ляжыць "Беларусы ў Літве", кніга першая гэтага доўгачаканага выдання. Яе малады аўтар — Аляксандр Адамковіч — родам з Віцебшчыны, ён выпускнік Вільнюскага педуніверсітэта, поўны аптымізму і надзеі выдаць у серыі яшчэ тры-чатыры кнігі. Першая ж мае тэматычны падзагаловак: "Вільня", і, спадзяюся, літоўцы не будуць з гэтай прычыны на яго крыўдаваць, бо гаворка ў кнізе ідзе пераважна пра часы, калі гэты старажытны горад яшчэ не ўваходзіў у склад Літвы як асобнай дзяржавы, не стаў яе сталіцай. Дарэчы, на вокладцы кнігі — адзін з сімвалічных помнікаў архітэктуры Вільнюса — барочная брама, якая вядзе ў двор колішняга базыльянскага кляштара, дзе, як вядома, у міжваеннае дваццацігоддзе месціліся Віленская беларуская гімназія і Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча.

Рэдактар кнігі — дырэктар Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Вільнюскага педуніверсітэта, дацэнт Лілея Плыгаўка — падкрэслівае ў прадмове, што выданне стала магчымым дзякуючы атмасферы этнічнай і рэлігійнай талерантнасці, традыцыям супольнага Вялікага Княства Літоўскага, якія прадаўжаюцца і сёння. "Аўтар кнігі, — пазначаецца ў прадмове, — назваў Вільню Вечным Горадам, у якім утульна розным народам, мовам і культурам. Хочацца, каб у ёй заўсёды ўтульна было і беларусам — тым, хто нарадзіўся тут ці народзіцца, або прыехаў ці прыедзе яшчэ з іншых гарадоў ці краін. Менавіта дзеля такой шматвяковай утульнасці працавалі беларусы ў першай палове ХХ ст. і працуюць сёння, стараючыся захаваць беларускую культурную прастору ў Літве".

Кніга А. Адамковіча складаецца з дзвюх частак. У першай з іх пад назвай "За сваё, беларускае слова" гаворка ідзе пра беларускае школьніцтва на Віленшчыне і асабліва Віленскую беларускую гімназію, беларускую настаўніцкую семінарыю і Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю. Друкуюцца знойдзеныя ў архівах спісы вучняў і педагогаў (а там значацца Максім і Леаніла Гарэцкія, Максім Танк, Міхась Машара, Зоська Верас і іншыя), расклады заняткаў і… даносы на прагрэсіўную моладзь "канфідэнцыяльных агентаў". Друкуецца многа невядомых раней звестак пра віленскі беларускі перыядычны друк (толькі ў адным 1937 годзе налічвалася 12 яго выданняў) і Беларускі пасольскі клуб. Адным словам, той, хто цяпер захоча пісаць пра грамадска-культурны рух у Заходняй Беларусі і яго цэнтр, якім з'яўлялася тады Вільня, можа выкарыстаць кнігу А. Адамковіча як новую і прытым надзейную крыніцу фактаў.



Другая частка кнігі — "Беларусы ў Вільні сёння" — складаецца з даволі падрабязнай хронікі жыцця Таварыства беларускай культуры ў Літве і гутарак з яго нязменным старшынёй Хведарам Нюнькам. Ёсць тут размовы з сябрамі гэтага таварыства, людзьмі розных пакаленняў — ад старажылаў Вільні Леакадзіі Шышэй і Ніны Брылеўскай да куды маладзейшай за іх паэтэсы Таццяны Сапач, якая, выйшаўшы замуж за пісьменніка Сяргея Дубаўца, пераехала ў Вільнюс і вось ужо 19 гадоў працуе на Літоўскім тэлебачанні: вядзе беларускую праграму, згуртавала вакол яе кваліфікаваны аўтарскі актыў, назапасіла архіў тэлефільмаў і знятых перадач.

Найбольш насычанымі фактычным матэрыялам у кнізе мне здаліся запісы гутарак з дырэктарам Віленскай беларускай школы імя Францыска Скарыны Галінай Сівалавай, яе намеснікам Раманам Вайніцкім, які цяпер, пасля смерці вядомага спевака Леаніда Мурашкі, пераняў прэзідэнцтва Згуртавання беларускіх грамадскіх суполак Літвы і з'яўляецца дарадцам прэм'ер-міністра Літвы па нацыянальных пытаннях. Вельмі цікавыя і размовы з кандыдатам філалагічных навук Лілеяй Плыгаўкай, якая пераехала ў Вільнюс з Баранавіч, каб узнімаць тут узровень беларускага школьніцтва, і ўзначаліла ў Вільнюскім дзяржаўным педуніверсттэце Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры. Сюды цяпер паступаюць выпускнікі не толькі беларускіх, але і рускіх, літоўскіх школ.

Працуючы ў Вільнюсе, Лілея Плыгаўка стала прызнаным спецыялістам ў галіне этнакультуры Вільнюскага краю, дзе беларусы гуртуюцца ў Шальчынінкай, Пабрадзе, Вісагінасе, вёсках і засценках. Яе манаграфія "Беларуская мова ў Літве: сацыякультурны і лінгвістычны аспекты" — першае комплекснае даследаванне складанай праблемы. У выніку навукова-практычных экспедыцый вучоная прыйшла вось да якога вельмі актуальнага ў Вільнюскім краі вываду (цытую па кнізе А. Адамковіча): "Калі мы ўбачылі і ўсвядомілі полікультурную, гістарычна абумоўленую сітуацыю Паўднёва-Усходняй Літвы, зразумелі, што камусьці аднаму з народаў прэтэндаваць на тое, што Вільня наша – несправядліва і смешна. Так, Вільня наша — г. зн. супольная. І калі нейкую адну нацыянальнасць не будзеш улічваць, то суквецце культур страціць сваё багацце і прыгажосць, страціцца адметнасць горада і яго арыгінальнасць. Ты гэта стаў заўважаць і разумець, і з'явілася падстава для навуковага даследавання рэгіёна".

Будзем жа чакаць наступных кніжак серыі "Беларусы ў Літве: учора і сёння" маладога, працавітага і ўдумлівага даследчыка.

### На трох мовах

Кнігі пра нашых суайчыннікаў раней выходзілі толькі на адной мове, у апошні час з'явіліся двухмоўныя (да прыкладу, у манаграфіі Зінаіды Гімпелевіч "Беларуска-яўрэйскія пісьменнікі XX стагоддзя: паходжанне, гісторыя, дыскурс і біяграфіі", выдадзенай сёлета ў ЗША, англійскі тэкст ідзе ўслед за беларускім). Але вось у канцы мінулага года з'явіўся і трохмоўны зборнік "Адзін з нас", падрыхтаваны калектывам аўтараў (рэй сярод іх вядзе Андрэй Каляда), дзе беларускія тэксты дапаўняюцца ўслед англійскімі і рускімі.

Нашы суайчыннікі, якія з'яўляюцца героямі зборніка "Адзін з нас", працавалі на карысць самых розных краін і народаў: мастак Леў Бакст і Аскар Мілаш — Францыі, Менахем Бегін, Хаім Вейцман і Шымон Перас — Ізраіля, Андрэй Грамыка і Павел Сухі — СССР, Ігнат Дамейка — Чылі. Канстанцін Ельскі — Цэнтральнай Амерыкі, Мікалай Судзілоўскі — Гаваяў, Японіі і Кітая і гэтак далей. Самі эсэ напісаны дастаткова займальна, а спіс выкарыстанай літаратуры — даволі багаты.

Аднак у мяне ёсць некаторыя заўвагі для аўтараў зборніка. У анатацыі да кнігі яны сцвярджаюць: "…выхадцамі з Беларусі з'яўляюцца вялікі канадскі хакеіст Уэйн Грэцкі, амерыканскі акцёр Харысан Форд, французскі мадэльер Іў-Сэн Ларан ці сусветная зорка журналісткі Лары Кінг". Але ж пералічаныя асобы з'яўляюцца не выхадцамі, а нашчадкамі выхадцаў з Беларусі, што далёка не адно і тое ж. Дададзім да таго, што амерыканскі пісьменнік-фантаст Айзек Азімаў, пра якога гаворыцца ў кнізе, нарадзіўся не на тэрыторыі сённяшняй Беларусі, а на той частцы былой Магілёўскай губерні, якая адышла да Расіі. Тое ж датычыцца Софіі




Кавалеўскай. Спрэчным з'яўляецца "прысвеанне" Людвіка Заменгофа. Крытэрыі выбару кандыдатур у такіх выпадках павінны быць больш навукова абгрунтаванымі. Бо спіс прэтэндэнтаў, калі кіравацца такімі крытэрыямі, можа быць прадоўжаны: тут і Шастаковіч, і Стравінскі, і Грын, і Высоцкі, і Кусто, і нават Дастаеўскі. І я допускаю мажлівасць такога выдання. Але ж будзе яно ўжо зусім іншага тыпу.

Спадзяюся, што ў наступным выданні зборніка кожны "адзін з нас" атрымае больш акрэсленую характарыстыку.

Адам МАЛЬДЗІС

## У будучы даведнік

# «Калевала» і Якуб Колас



Прушынская Наталля Андрэеўна (13. 12. 1939, г. Кола Мурманскай вобл., Расійская Федэрацыя), літаратуразнавец, навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і гісторыі Карэльскага навуковага цэнтра Расійскай акадэміі навук.

Карэльская даследчыца Наталля Прушынская з'яўляецца дачкой беларускага пісьменніка Андрэя Мрыя (сапраўднае прозвішча Андрэй Шашалевіч), які быў двойчы рэпрэсіраваны, загінуў у сталінскіх лагерах, а потым быў рэабілітаваны. Пасля другога арышту бацькі (1940) маленькую дзяўчынку разам з маці і братам выслалі з Мурманска ў Клінцоўскі раён Бранскай вобласці. У 1944 годзе, пасля вызвалення ад акупацыі, маці адпусціла Наталлю разам з цёткай (сястрой бацькі), якая ўдачарыла старэйшую сястру дзяўчынкі. У Петразаводску яна хадзіла ў дзіцячы сад, закончыла першы клас. У 1947 — 1949 гг. Наталля зноў з маці і братам у Гомелі, дзе таксама знаходзіліся родзічы.

У наступныя чатыры гады жылі ў вёсцы Негаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Маці настаўнічала, а дзяўчынка закончыла сёмы клас. Калі вырашалася пытанне пра далейшую вучобу, выбар паў на Карэлію. Там Н. Прушынская закончыла Карэльскі дзяржаўны педінстытут (1962) па спецыяльнасці руская мова і літаратура, нямецкая мова. Выкладала ў школах Петразаводска (1962 — 1966) і Гомеля (1966 — 1968). Да 1998 года працавала ў Інстытуце мовы, літаратуры і гісторыі Карэльскага навуковага цэнтра РАН. Калі выйшла на пенсію, то засталася пазаштатным супрацоўнікам таго ж інстытута, кіраўніком тэмы.

Н. Прушынская з'яўляецца аўтарам даследаванняў, прысвечаных карэльска-беларускаму літаратурнаму ўзаемадзеянню. На гэтую тэму ёй выдадзены кнігі "Калевала" ў Беларусі" (1987, 2002, 2003), "Якуб Колас і "Калевала" (1994), "Масты згоды: Пра вывучэнне літаратурных сувязей Карэліі" (2003, 2004). Яе складзены бібліяграфічныя даведнікі "Калевала — помнік сусветнай культуры" (1993), "Летапіс літаратурнага жыцця Карэліі" (1989, 1994) і інш. Жыццю і творчасці свайго бацькі Н. Прушынская прысвяціла кнігу "Новыя звесткі да біяграфіі Андрэя Мрыя" (2001) і шэраг артыкулаў у перыёдыцы.

Жыве ў Петразаводску.

Тамара ШУРКО

**Пётр Кузюковіч — нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Пазязынь Маладзечанскага раёна — беларускі вучоны ў галіне хірургіі, доктар медыцынскіх навук. Працяглы час ён меў цёплыя таварыскія адносіны з Максімам Танкам. Успаміны Пятра Маркавіча ўвайшлі ў зборнік успамінаў пра народнага паэта Беларусі, які склаў літаратуразнаўца Уладзімір Казбярук. Зборнік гэты, дарэчы, яшчэ свет не пабачыў. Няма сумнення, што хтосьці з выдаўцоў рукапісам зборніка зацікавіцца, паколькі творчасць і асоба слыннага паэта ХХ стагоддзя прыцягальныя для шмат каго і сёння.**

# Добры чалавек

Пазнаёміла і бліжэй звяла мяне з Максімам Танкам Вільня. Там у гімназіі хорам кіраваў Рыгор Шырма. Ён усяляк стараўся далучыць Яўгена Іванавіча да музыкі, запрашаў яго на рэпетыцыі, спеўкі.

Безумоўна, Максім Танк быў лідэрам маладой заходнебеларускай літаратуры. І нічога дзіўнага, што польскія ўлады і Саюз польскіх пісьменнікаў імкнуліся перацягнуць яго на свой бок. За адмову ад беларускасці яму абяцалі друкаванне ў прэстыжных польскіх часопісах. Адначасова рабіўся ўціск: канфіскоўвалі яго зборнікі і вершы, надрукаваныя рознымі выдавецтвамі, перашкаджалі ўладкавацца на працу ў Вільні, у яго нават з'явіліся штатныя абвінаваўцы, якія заўсёды былі на варце і сачылі ледзь не за кожным яго публічным крокам. Дзівакі, яны не ведалі, з кім маюць справу: "Я адчуваў, — успамінаў паэт, — што спакойна мне жыць і працаваць польскія ўлады не дадуць. Ратуючыся ад ганенняў паліцыі, у 1932 годзе са згоды ЦК КПЗБ перайшоў польска-савецкую граніцу і апынуўся ў Мінску, дзе прасядзеў у турме, пакуль не разабраліся, хто я. Мінскія ўлады (ДПУ) вырашылі вярнуць мяне назад у Заходнюю Беларусь, дзе была патрэба кансалідацыі ўсіх прагрэсіўных антыфашысцкіх сіл". У далейшым ён неаднаразова казаў, што гэта якраз і выратавала яму жыццё. І ён не памыляўся. У час сталінскага тэрору заходнебеларуская інтэлігенцыя, якая апынулася на тэрыторыі Усходняй Беларусі, амаль уся была знішчана.

Максім Танк быў перакананым прыхільнікам савецкай ідэі і праяўляў выключную непахіснасць, асабліва там, дзе гэта датычылася палітычнай пільнасці. Партыйнае кіраўніцтва добра ведала гэта і вельмі цаніла. Думаю, не памылюся, калі скажу, што яго палітычная, грамадская дзейнасць кіраўніцтвам рэспублікі цанілася нават больш, чым літаратурная. На адным з юбілеяў Танка мне давялося сядзець побач з А.Т.Кузьміным, сакратаром ЦК партыі, які ў сваім віншаванні хваліў паэзію Танка і назваў яго вялікім паэтам. "Дык разгрузіце яго, вызваліце ад лішніх службовых і грамадскіх абавязкаў — няхай больш піша", — далікатна сказаў я, так як гавораць высокаму начальству. Ён памачаў і хмура прамовіў: "Нам патрэбен Танк такі, які ён ёсць".

У 1954 годзе я быў у Мінску на курсах удасканалення ўрачоў, і Яўген Іванавіч папрасіў мяне пажыць на кватэры падчас яго адпачынку. Аднаго разу на яго імя прыйшла бандэроль з аповесцю А.Карпюка "Данута" з удзячным надпісам Танку за садзейнічанне ў яе выданні. І Яўген Іванавіч патлумачыў. Як вядома, нацыянальна-вызваленчым рухам у Заходняй Беларусі кіравала КПЗБ, якую Сталін у 1938 годзе разагнаў. Зразумела, што на асвятленне дзейнасці КПЗБ было накладзена табу. Адразу пасля смерці дыктатара ідэйна-палітычная сітуацыя ў краіне была вельмі складанай. Пачалася барацьба паміж дэмакратычнымі тэндэнцыямі і таталітарызмам у грамадскім жыцці, і да хрушчоўскай "адлігі" ніхто пэўна не ведаў, як ацэньваць дзейнасць КПЗБ. У гэтай сітуацыі Галоўліт доўга не даваў дазволу на выданне аповесці. Тады таварышы з аддзела культуры ЦК звярнуліся да Танка як удзельніка рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі. Танк не пабаяўся ўзяць на сябе адказнасць і настойліва рэкамендаваў аповесць да выдання.

Нешта падобнае здарылася з гістарычным раманам Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім". Кніга пакутліва праходзіла праз цэнзарскае сіта і начальніцкую пільнасць. Валакіта закончылася тым, што раман друкаваўся пад асабістым патранатам Максіма Танка.

У 1968 годзе Яўгену Іванавічу давялося займацца вельмі заблытанай справай Ларысы Геніюш — таленавітай беларускай паэткі. У 1956 годзе паэтэсу вызвалілі, яна вярнулася на радзіму і жыла ў Зэльве. Аднак савецкага грамадзянства не прыняла, што прывяло да канфліктнай сітуацыі з мясцовымі ўладамі, якія стварылі вакол яе атмасферу насцярожанасці, падазронасці. Справа так заблыталася, што паэтэса падумвала аб самагубстве. Былі размовы ў ЦК КПБ. Паэт ездзіў у Зэльву, перагаварыў з мясцовымі кіраўнікамі, патлумачыў, да каго яны маюць дачыненне. Саюз



пісьменнікаў са згоды дырэктыўных органаў пачаў друкаваць вершы Л.Геніюш, і трагедыя была прадухілена.

Максім Танк разам з Рыгорам Шырмам неаднаразова хадайнічалі аб дазволе вярнуцца з Прагі на Беларусь выдатнаму спеваку-беларусу М.Забэйду-Суміцкаму. Дазвол на яго вяртанне не быў атрыманы, але клопаты не прапалі дарэмна. З цягам часу добрае імя спевака было адноўлена, у Беларусі з'явіліся кружэлкі з яго песнямі, у часопісах пачалі друкаваць артыкулы пра жыццё і творчасць гэтага выдатнага артыста. Танк прысвяціў яму верш "Куды б цябе лёс ні закінуў...", і сцяна маўчання вакол імя спевака была прабіта.

Я таксама ўдзячны Яўгену Іванавічу за яго ўдзел у маім лёсе. У 1949 годзе я скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. З 450 выпускнікоў 125 былі пад акупацыяй, і таму нам не выдалі дыпломаў, а толькі даведкі (мне не прысвоілі звання старшага лейтэнанта медслужбы, не далі дыплома выдатніка). І пасля я ўвесь час адчуваў сябе так, нібыта быў пад наглядам.

І вось неяк увесну 1953 года ў Слонім, дзе я тады працаваў у райбальніцы, прыехала група пісьменнікаў — Янка Брыль, Максім Танк, Іван Шамякін. На сустрэчы паэт, убачыўшы мяне, абняў, пацалаваў — у прысутнасці раённага начальства. Я не быў падпольшчыкам. А паэт увесь час у размове паказваў, нібыта мы сябры па камуністычным змаганні.

Пасля гэтага адносіны да мяне раённага кіраўніцтва сталі зусім іншымі. Калі справы датычыліся славутых беларусаў, імёны якіх пэўны час былі выкраслены з гісторыі і нацыянальнай культуры альбо калі патрэба была ў беларускай ідэі, Танка пакідалі і асцярожнасць, і палітычная пільнасць. Як вядома, у часы хрушчоўскай "адлігі" рэспублікам навязалі так званы выбар мовы навучання з волі бацькоў. Паэт быў бязмежна гэтым абураны і прыгнечаны, баяўся звароту палітыкі змагання з "нацдэмаўшчынаю". Яго размова ў ЦК на гэтую тэму нічога не дала. Яму сказалі, што ў рэспубліцы ёсць больш важныя справы, чым нацыянальнае пытанне.

Максім Танк пражыў доўгае жыццё. Многа падзей, многа змен адбылося за гэты час. Здаецца, у пачатку 1963 года я апераваў аднаго палкоўніка КДБ. Разгаварыліся пра нядаўні Танкаў юбілей. І раптам ён згадвае, што ўжо ў пасляваенныя гады былі падрыхтаваны матэрыялы на арышт Міхася Лынькова, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка. Калі я пасля сказаў пра гэта на рыбалцы Лынькову, ён адказаў: "Я гэта ведаў".

На сямейных і сяброўскіх урачыстасцях паэт многа жартаваў, усіх весяліў, на пытанні адказваў дасціпна. Быў чалавекам шырокай эрудыцыі, глыбокіх ведаў, хоць і не меў вышэйшай адукацыі. Дома ў паэта была не надта каб вялікая, але цікавая, поўная рэдкіх кніг бібліятэка. Многія кніжкі, якія ён купляў і якія яму дарылі, аддаваў у школьныя бібліятэкі, асабліва ў школы сваёй Мядзельшчыны. Яўген Іванавіч лічыў, што паэту варта мець не больш за 20 — 30 кніг, але такіх, якія трэба чытаць штодзённа.

Пасля вайны Максім Танк жыў у невялікай двухпакаёвай кватэры, а сямейка была дай Бог — 8, а то і 9 чалавек. Нярэдка ў гэтай кватэры знаходзілі прытулак аднавяскоўцы паэта і сваякі яго жонкі, якія прыязджалі ў Мінск па розных справах. У гэтым мурашніку Танк браў на рукі сваіх двайнятак, хадзіў па пакоі, прыдумваў ім казкі, складаў вершы.

У кастрычніку 1994 года мядзельскія землякі запрасілі Танка на сустрэчу. З групай сяброў, сярод якіх быў і я, як доктар, па дарозе ў Мядзел заехалі ў Пількаўшчыну, дзе паэт спаткаўся з братам Федзем і яго сям'ёй, пабываў у "старой" хаце, дзе прайшлі яго дзяцінства і юнацтва, наведаў магілы сваіх бацькоў на мясцовым магільніку. Тут ён доўга стаяў у жалобным маўчанні і, прадчуваючы нядобрае, сказаў: "Да скорай сустрэчы!.."

Яўген Іванавіч і ягоная жонка Любоў Андрэеўна нарадзіліся ў адзін год і ў адным годзе памерлі. Пражылі сумесна 56 шчаслівых гадоў. Паэт перажыў сваю жонку крыху больш на чатыры месяцы. Пахавалі іх у адной труне на радзіме паэта побач з яго бацькамі (урну з прахам жонкі Яўген Іванавіч захоўваў дома да сваёй смяротнай гадзіны). На могілках, дзе пахаваны народны паэт і яго жонка, пастаўлены помнік з двух крыжоў, абвітых у падножжы лаўровым вянком.

**Пётр КУЗЮКОВІЧ**

Сяргей БЕЛАЯР

# Споведзь астранаўта

## Фантастычнае апавяданне

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

Мы кідаем выклік пустэчы першаснага Хаосу, забываючыся аб пустэчы свайго ўласнага "Я". Рамантыкі няма і ніколі не было. Ёсць толькі суровая рэчаіснасць, жорсткая проза быцця. І, перш чым думаць пра зоркі, чалавецтву трэба падумаць аб сабе самім. Мы занадта далёкія ад Прыроды, каб лезці туды, дзе нас пакуль не чакаюць. Было б залішне саманадзейна сцвярджаць, што браты па розуму прымуць нас з шырокімі абдымкамі. Хутчэй наадварот. Яны кінуцца ад нас, як ад пракажоных, убачыўшы гнілую сутнасць чалавецтва. Мы звыш меры вартыя жалю для таго, каб паўстаць перад тварам невядомага. Спачатку трэба навесці парадак ва ўласным доме, а потым ужо прасіцца ў госці. Будзь добры, падай мне вады...

Руслан падняўся з табурэта і працягнуў дзеду кубак, які стаяў на тумбачцы.

— Дзякуй, — сказаў стары, прыняўшы кубак. Затым стаў піць, прагна, нібы баючыся не паспець. Кадык хадзіў уверх-уніз, кроплі сцякалі па падбароддзі, але дзед не заўважаў іх.

Гаўрылюк цярпліва чакаў, калі стары загаворыць зноў. Нарэшце дзед працягнуў:

— Свет вакол нас жорсткі і несправядлівы. Але, з другога боку, было б наіўна чакаць ад Сусвету справядлівасці, бо яна — усяго толькі катэгорыя чалавечай маралі. Космас па той бок Дабра і Зла ў іх чалавечым разуменні. Ніхто і ніколі не пашкадуе нас, не працягне руку дапамогі да тых часоў, пакуль мы самі не дапаможам сабе. Мы пабудавалі свет, дзе няма месца любові да блізкага, і было б неразумна спадзявацца на тое, што космас адкажа нам узаемнасцю. Толькі той, хто бачыць у іншым чалавеку роўнага сабе, варты далучыцца да таямніц светабудовы, зачэрпнуць чароўнай вады з крыніцы Міміра. Мы можам паспрабаваць зламаць сцяну, але ніколі не дасягнем Ісціны. Таямніцы Сусвету адкрываюцца толькі тым, хто гатовы прыняць іх. Хіба гэта не справядліва?

Руслан прамаўчаў.

— У нейкай ступені сцяна выратавала нас ад пагібелі. Бо паводзіны неразумнага чалавецтва, якое дарвалася да сакрэтаў Сусвету, прадказаць немагчыма. Але, павер мне, нічога добрага з гэтага не выйшла б. У нашых характарах ёсць нейкая пустая веліч, напляваўцельства ў дачыненні да іншых. Мы лічым сябе багамі, а на самай справе чалавек — нішто, бездапаможная істота, якая за тысячы гадоў свайго развіцця так і не навучылася думаць. Так, мы дасягнулі пэўных вяршынь, але гэтага яўна недастаткова для далучэння да патаемнага. І сцяна лепшы таму доказ. Мы пакуль не гатовы прыняць светабудову такой, якая яна ёсць. Занадта цяжкай можа апынуцца ноша.

— Так што, скарыцца? Апусціць рукі?

— Ні ў якім разе. Трэба жыць, вучыцца, удасканальвацца. І Космас прыме нас, прызнае роўнымі. Але да гэтага яшчэ вельмі далёка... Мы зрабілі вялікую памылку, раней часу пастукаўшы ў браму невядомага. Варта было б яшчэ крыху пачакаць, стаць дарослымі ў рэшце рэшт. Нельга ж увесь час заставацца дзецьмі. І тыя, хто пабудаваў сцяну, далі нам добры ўрок. Няма чаго сунуцца туды, дзе цябе не чакаюць...

Стары зрабіў яшчэ некалькі глыткоў.

— Дык у чым таямніца, дзед? Ты ж не проста так паклікаў мяне, каб паразважаць аб сапсаваным і недалёкім чалавецтве?

Былы астранаўт усміхнуўся.

— Вядома, не. Уся таямніца ў тым, што ад нас хаваюць праўду, а палёт "Фрэі", дакладней, яго вынікі, як і ўсе ранейшыя касмічныя падарожжы, з'яўляюцца самым грандыёзным падманам з усіх, якія калі-небудзь сустракаў чалавек. Мы не ведаем нічога нават пра ўласную галактыку. Але ніхто і ніколі не прызнаецца ў тым, што грошы падаткаплацельшчыкаў, прычым немалыя, сышлі марна, а ў космасе няма нічога, што ўвязвалася б з сучасным узроўнем развіцця чалавечай цывілізацыі. Мы не ведаем нават мільённай долі працэнта таямніц светабудовы. Па-дурному б'емся галавой аб сценку, не можам пераадолець штучны бар'ер, створаны Прыродай, Богам... А людзям патрэбны вынікі. Трэба пацешыць сваё самалюбства, даказаць самім сабе, што мы нечага варты. Заўсёды цяжка прызнаваць сваю непаўнавартасць. Таму ў вярхах вырашылі, што сказаць палову праўды будзе лепш для ўсіх. І вось з'явілася афера "Фрэі"...

— Дык што, вось гэта ўсё блеф? — здзіўлена спытаў Руслан, паказваючы рукой на павешаныя на сценах фатаграфіі, ганаровыя граматы, медалі і кубкі, якімі быў узнагароджаны дзед.

— На жаль, — стары апусціў галаву. — І высадка на Месяц, і палёты да планет Сонечнай сістэмы...

— І нават зорка Героя?

Дзед кіўнуў. Ціха сказаў:

Валянціна Свірская — дырэктар Палянскага сельскага дома народнай творчасці і рамёстваў, народны майстар па саломапляценні, маці траіх дзяцей. Жыве і працуе ў вёсцы на Ашмяншчыне і не збіраецца нікуды адсюль з'язджаць, бо менавіта тут, на роднай зямлі, знайшла прымяненне сваім талентам, фантазіі, праявіла сябе як творчая асоба, педагог, і змагла згуртаваць вакол сябе і дома рамёстваў людзей розных узростаў, але нераўнадушных да сваёй спадчыны. Летась Валянціна Казіміраўна атрымала прэмію Гродзенскага аблвыканкама імя А. Дубко ў намінацыі "Клубны работнік года". А пачалося ўсё з таго, што трынаццаць год таму ёй прапанавалі ўзначаліць Палянскі сельскі клуб, які на той час лічыўся адным з самых адстаючых у раёне.





# Асяродак творчасці і адпачынку

— Калі я ўбачыла, як ён выглядае, адразу захацелася штосьці змяніць, зрабіць гэты асяродак культуры больш прывабным. Каб людзі часцей заходзілі сюды і атрымоўвалі задавальненне, — успамінае Валянціна Свірская.

Вось з гэтага маленькага жадання нарадзілася, без перабольшання, вялікая справа. На дапамогу жанчыне прыйшла пляменніца Наталля Мась (настаўніца з Ліды), якая навучыла яе працаваць з саломкай. Да гэтага Валянціна Казіміраўна толькі вязала, і то ў падлеткавым узросце. У хуткім часе ўжо сама загадчыца клуба пачала весці заняткі з дзецьмі ў гуртку "Умелыя ручкі". У асноўным рабілі аплікацыі з саломкі ды розныя рэчы з пап'е-машэ. Вельмі хутка настаўніца асвоіла і саламапляценне. За ёю і дзеці пацягнуліся, захапіліся новым рамяством.

Агульнымі намаганнямі і з вялікім задавальненнем упрыгожылі работамі сцены клуба, стварылі майстэрню ў стылі "Беларускай хаткі". Для пошуку прадметаў падключыліся і мясцовыя жыхары. Даставалі з куфраў дарагія сэрцу рэчы і неслі ў клуб. Каб прадстаўнікі маладога пакалення пазнаёміліся з іх майстэрствам, а калі пажадаюць, то і навучыліся ткаць, вышываць... Напрыклад, вядомая на Ашмяншчыне майстар па ткацтве Вера Саўчанка падарыла дыван, які вышывала крыжыкам пяць гадоў! Старадаўнія рэчы і эксклюзіўныя вырабы самабытных майстроў працягвалі паступаць у "Беларускую хатку". Маці Валянціны Казіміраўны, Феліцыя Казіміраўна, і свякроў, Гэнуэта Станіславаўна (цяпер не ўжо няма ў жывых), таксама не аказаліся ўбаку і аддалі "ў хатку" капу, ручнікі, якія самі калісьці выткалі.



— Таму не дзіўна, што ў 2003 годзе змяніўся статус установы, і клуб пачаў называцца "Палянскі дом народнай творчасці", — заўважае метадыст раённага навукова-метадычнага цэнтра Сяргей Жылік. — А праз два гады гэты асяродак сельскай культуры ператварыўся ў "Палянскі дом народнай творчасці і рамёстваў". З гэтага часу ў доме рамёстваў пачало працаваць ажно восем гурткоў. У шасці з іх дзеці знаёмяцца з народнай прыкладной творчасцю, у сёмым асвойваюць тэатральныя сакрэты (ёсць і свая "Батлейка"), а ў восьмым вучацца вакалу.

Як толькі прыйшла мода на бісер, дзеці, безумоўна, захацелі навучыцца бісерапляценню. Давялося Валянціне Казіміраўне засесці за літаратуру і па кніжках самастойна асвоіць гэтае адмысловае рамяство. А аднойчы за кароткі час навучылася працаваць з салёным цестам, бо прыйшла дзяўчынка, якая вельмі захацела зляпіць з яго падарунак бабулі да 8 Сакавіка.

— Ну як растлумачыць дзіцяці, што такога гуртка ў нас няма, — заўважае настаўніца. — Зноў села за кнігі, і падарунак падрыхтавалі.

Нядаўна ў Валянціны Казіміраўны з'явілася памочніца — Валянціна Пакульневіч, якая вядзе заняткі ў гуртках "Кручок і фантазія", "Рукадзелле" і ўжо паспела зрабіць свой унёсак у развіццё дома рамёстваў.

Работы юных майстроў і іх настаўнікаў пастаянна дэманструюцца падчас мерапрыемстваў раённага, абласнога і рэспубліканскага ўзроўняў, адзначаны шматлікімі граматамі і дыпломамі.



Не пустуе дом рамёстваў і падчас школьных канікулаў. Бывае на заняткі прыходзяць і дзеці, якія прыехалі да бабуль у госці. Ім тут вельмі падабаецца, яны з задавальненнем прымаюць удзел у святах, якія праводзіць дом рамёстваў.

Заходзяць сюды і дарослыя. Каб адпачыць душою, перамовіцца словам з аднавяскоўцамі, паглядзець, як іх дзеці і ўнукі асвойваюць старадаўнія і сучасныя рамёствы. Часта наведваецца і Вера Афанасьеўна.

— Звычайна, пераступаючы парог, яна кажа: "Мне трэба паправіць здароў'е", — расказвае Валянціна Свірская. — Заўсёды паглядзіць, што ў нас новага, і нават падкажа, як лепш размясціць вырабы. Густу майстрыхі мы давяраем. Была ў нас і выстаўка яе работ. Прынамсі, некаторыя з іх жанчына падарыла дому рамёстваў.

Ужо стала традыцыяй, што кожную восень работнікі культурных устаноў раёна наведваюцца да сваіх калег, каб паглядзець, чаго яны дасягнулі за год. Вось такі своеасаблівы абмен вопытам з'явіўся штуршком да таго, што тэрыторыя каля дома народнай творчасці ў Палянах, хаця і займае ладны кавалак зямлі, ператварылася ў чароўнае месца. Людзі прыходзяць сюды на экскурсію, фатаграфуюцца на памяць.

Гледзячы на Валянціну Свірскую, міжволі здзіўляешся, як яе на ўсё хапае. Работа, сям'я, уласная гаспадарка. Жыццё ж у вёсцы лёгкім не назавеш.

— Без дапамогі аднадумцаў, сваіх вучняў, а таксама мужа, Міхаіла Генрыхавіча, не змагла б увасобіць у жыццё многія ідэі, — шчыра прызнаецца дырэктар дома рамёстваў. — Калі я на працы, то жыву толькі творчасцю, адпачываю ад гаспадарчых клопатаў. Бо тут я займаюся любімай справай, хаця пальцы ад саломы вельмі баляць. Шчыра кажучы, не ўяўляю жыцця нашай вёскі без дома рамёстваў, тым больш, што тры гады таму ў нас закрылі школу. Калі вёска страціць яшчэ і гэты асяродак культуры, то жыццё ў Палянах будзе зусім іншым.

Раіса МАРЧУК

На здымках: дырэктар Палянскага сельскага дома народнай творчасці і рамёстваў Валянціна Свірская; пано ў тэхніцы фларыстыка — сумесная работа настаўніцы і членаў гуртка "Умелыя ручкі"; вырабы з саломкі — аўтар Валянціна Свірская; "Зімовае дрэва" — работа дачкі Валянціны Казіміраўны — Настассі.

Фота аўтара

## У наступным нумары ЛіМ

Шмат роздумаў выкліча інтэрв'ю з пісьменнікам Барысам Косціным, які нарадзіўся ў Томску, а жыве цяпер у Санкт-Пецярбургу. Змест ягоных твораў — старажытная гісторыя беларуска-расійскага памежжа, лёсы гістарычных персанажаў. Пісьменнік — аўтар адметных твораў, што выходзяць у серыі "ЖЗЛ". Дарэчы, бібліяграфічнай рэдкасцю стала ягоная кніга "Уладзімір і Рагнеда". Апошнім часам Барыс Акімавіч напісаў аповесць пра Сімяона Полацкага — выдавец твора, на жаль, пакуль не знайшоўся.

З глыбінкі

## Таленты Міншчыны — у Слуцку

У рамках рэспубліканскай акцыі "Зямля пад белымі крыламі" ў Слуцкай галерэі мастацтваў адкрылася выстаўка сучаснага мастацтва Міншчыны. Жывапісец з Вілейкі Эдуард Мацюшонак не толькі прадставіў свае карціны, але і прыняў удзел у яе адкрыцці. Родам творца з Глыбоччыны. Родным мясцінам ён прысвяціў карціну "Трэба дома бываць часцей". Наведвальнікам выстаўкі запомнілася таксама работа мастака "Музыка Вілейкі", якую ён прысвяціў гораду, у якім жыве. У апошні час мастак захапіўся жанрам рэканструкцыі гістарычных аб'ектаў нашай Айчыны, якія ўжо не існуюць. Тым самым ён пракладвае масцік паміж пакаленнямі, паміж мінулым і будучым.

На выстаўцы — 80 мастацкіх палотнаў і 60 прадметаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Зразумела, гэта толькі малая частка таго, што створана мастакамі Міншчыны за апошнія 10 гадоў. Як адзначыла намеснік дырэктара Мінскага абласнога краязнаўчага музея Наталля Палтавец, арганізатарам удалося абазначыць асноўныя напрамкі творчасці мастакоў рэгіёна. У карціннай галерэі выставілі свае работы 17 мастакоў, 7 графікаў і 13 майстроў дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Прадстаўлены работы Яўгена Ждана, Кастуся Харашэвіча, Віктара Маркаўца, Уладзіміра Хадаровіча, Аляксандра Пашкевіча, якія шмат зрабілі для развіцця беларускага мастацтва. Найбольш тут маладзечанскіх аўтараў. І гэта не дзіўна. Бо ў Маладзечне працуюць каля 40 майстроў, 8 з'яўляюцца членамі Саюза мастакоў. Прадстаўлены цудоўныя работы Вікторыі Чырвонцавай з Маладзечна, якая стаяла ля вытокаў аднаўлення беларускай выцінанкі.

Зямля пад белымі крыламі... Так у свой час назваў нашу краіну Уладзімір Караткевіч. Ён апісваў непаўторную прыгажосць нашай Радзімы. Тое ж самае можна сказаць і пра мастакоў, чые творы сёння — у Слуцкай галерэі мастацтваў.

Таццяна ГАЎРУСЁВА

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2946
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 23.09.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 4634
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6646